№ 51 (208) 18 сьнежня 2000 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Аднаўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

СПЭЦЫЯЛЬНЫ НУМАР "НН"

# ЭЎРОПА ВЯЛІКІХ ФАРАОНАЎ

Сем апавяданьняў на сем зімовых вечароў



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

**СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ПРОЗА**



Па апавяданьні на кожны шары дзень зімовага сонцастаяньня, на кожнае сутоньне, на кожны доўгі перадкалядны вечар.

# Тры-чатыры

*Лукашэнка хоча, каб дэмакраты вылучылі як найболей кандыдатаў, зь якіх зарэгістраваць можна будзе толькі самага зручнага*

Каардынацыйная Рада Дэмакратычных Сілаў у мінулую пятніцу ня вылучыла, як зьбіралася, адзінага кандыдата на прэзыдэнта. Прэтэндэнтаў аказалася тры. Сямён Домаш, якога падтрымлівае большасьць рэгіянальных структураў і незалежных суполак, а таксама свабодныя прафсаюзы, БНФ, частка АГП і "Хартыя-97", сабраў 9 галасоў. Уладзімер Ганчарык, падтрыманы Фэдэрацыяй прафсаюзаў ды блізкімі да яе Партыяй Працы і Жаночай Партыяй "Надзея", а таксама сацыял-дэмакратамі С.Шушкевіча зь ягоным немалым асабістым унутры- і замежнапалітычным аўтарытэтам — 3 галасы. Міхаіл Чыгір, за якім стаяць іншая частка АГП і бізнэс-эліта — 1 голас.

Ганчарык, такім чынам, усё ж рашыўся на ўдзел у кампаніі. Чыгір наважаны максымальна скарыстаць з назапашанага за два гады палітыкаваньня і зьняволеньня палітычны капітал. А Сямён Домаш, хоць і называўся рознымі коламі як ідэальная фігура разумнага кампрамісу і раўнавагі, пакуль ня здолеў давесьці гэта ўсім. Прынамсі, іншыя папулярныя палітыкі яшчэ чакаюць ад яго гарантыяў "каманднае гульні".

Якія моцныя і слабыя бакі кожнага з гэтых трох палітыкаў?

У Ганчарыка ў актыве — прафсаюзы, прысутныя ў кожным раёне, на кожным прадпрыемстве. Сіла, здольная назіраць за ходам выбараў і даносіць інфармацыю да тых грамадзянаў, якіх не закранаюць партыйныя ўлёткі і незалежная прэса. Апроч таго, у кулюарах гавораць пра маскоўскія сувязі Ганчарыка і, у прыватнасьці, ягоны кантакт з дырэктарам заводу "Рубін", былым сакратаром ПКБ А.Лашкевічам. Такім чынам, прафсаюзны лідэр быццам бы можа разьлічваць калі не на "ўсходнія грошы", дык, прынамсі, на нэўтралітэт часткі расейскае прэсы.

Але сацыялягічныя апытаньні сьведчаць, што аўтарытэт прафсаюзаў у грамадзтве нізкі, і нізкі той стабільнай нізінёю, якой ніяк не падвысіш. Скажам, партыі непапулярныя, бо іх ня ведаюць, вакол іх інфармацыйная блякада і смуга дэзынфармацыі. І іхная непапулярнасьць ураз можа перавярнуцца шалёнай папулярнасьцю, як толькі дасьць збой прапагандысцкі апарат рэжыму. Тады як афіцыйныя прафсаюзы знаёмыя кожнаму па іхнай штодзённай дзейнасьці — або бязьдзейнасьці. І кляймо "культмасавікаў" і "згоднікаў", засталае ад савецкае пары, ляжыць на прафсаюзьніках дагэтуль. Кожны з выбарцаў будзе сабе думаць, а ці зможа "добры сакратар прафкаму" Ганчарык стаць хоць "кепскім дырэктарам"?

Сувязі ў Маскве, лічыцца, мае і Міхаіл Чыгір. А ўнутрыпалітычны козыр Чыгіра — тое, што яго ведае найвышэйшая намэнклятура краіны, у тым ліку й сілаў бясьпекі. Калі гандыкап Ганчарыка — высокі адмоўны рэйтынг ягонай арганізацыі, дык у Чыгіра — высокі асабісты адмоўны рэйтынг. Каб мы былі ў Сэрбіі, дык ягоная кандыдатура нават не разглядалася б. Але мы ня ў Сэрбіі.



АЛЕНА АДАМЧЫХА

Усе відавочныя канкурэнты Лукашэнкі — з традыцыйна нацыяналістычных рэгіёнаў Беларусі. Чыгір і Ганчарык — родам з гістарычнай Случчыны, Домаш і Дабравольскі — зь летапіснай, ермаловіцкай Літвы. Адтуль жа — і Заламай, і невядома куды зьніклы Ганчар, і Пазьняк з Шарэцкім, і Кебіч.

Найбольшыя шанцы стаць адзіным кандыдатам ад дэмакратаў мае Сямён Домаш.

Напорыстасьць тых палітычных сілаў, якія падтрымліваюць Домаша, можа здавацца і плюсам, і мінусам. У Домаша за сьпінай — выбарцы дэмакратычнага Менску, ягонай вотчыны Гарадзеншчыны, ды яшчэ й Баранавіччыны, дзе ён нарадзіўся. Домашу сымпатызуюць тыя, каго мы звыклі называць "незалежным беларускім грамадзтвам" — сеціва суполак, партыйных групаў, гурткоў, асьветніцкіх, праваабарончых, рэлігійных і спартовых арганізацый ва ўсёй краіне. Патэнцыял незалежнага беларускага грамадзтва абмежаваны, але правераны. Яно вытрывала цяжар шасьці гадоў супраціву Лукашэнку. Ягоныя актывісты выпрабаваныя ў баталіях і маюць сякі-такі досьвед "арганічнае працы". Але маюць і клейкі імідж "апазыцыянэраў" і "бэнэфістаў".

Тады як праўдзівае арганізацыйнае здольнасьці прафсаюзаў проста ніхто ня ведае — во ж не змаглі яны арганізаваць ніводнай па-сапраўднаму моцнай акцыі пратэсту. Раптам нізавыя прафсаюзы акажуцца воламі на гліняных нагах, будуць праз усю кампанію ўхіляцца ад рэальнага змаганьня?

Домаш паводле поглядаў — сапраўдны асьцярожны цэнтрыст, аднак пэўныя мэдыі імкнуцца прыляпіць яму лэйбл "памяркоўнага нацыяналіста" і "правага палітыка", а таксама "крэатуры палітычных партыяў". Ці хопіць у Домаша палітычнага таленту не ісьці за гэтым вобразам, але старанна і штодзённа працаваць з Масквою, з усходнебеларускім электаратам? Ці здольны будзе ён даказаць сваю незалежнасьць ад партыяў, ня страціўшы пры гэтым іхнай падтрымкі?

У адрозьненьне ад Чыгіра й Ганчарыка, ён ня мае ўстойлівага іміджу ў выбарцаў. Гэта таксама плюс. Але і ў Маскве яго ведаюць найменей. Ды, мяркуючы па стаўленьні пэўных беларускіх газэтаў да ягонай кандыдатуры, баяцца найболей.

Палітычныя партыі падсьвядома хацелі б вылучыць "слабога кандыдата", якім маглі б папікаць. У нацыянальных жа інтарэсах, каб гэты кандыдат аказаўся моцны — каб ён, будучы падтрыманым палітычнымі партыямі, узяў іх пад ногі і павёў кампанію незалежна, хоць і не забываючыся, на кім стаіць.

**Працяг на старонцы 2.**

# Poeti italiani

Сяргей Астравец

*"Ягоны твар стаў*
*маскай маёю цяпер.*
*Тое, што знаў пра яго,*
*я ўвабраў, перанёс у сябе.*
*Вось і сыходжу я,*
*постаць, якая зьнікае,*
*пайду — і забудуцца на мяне".*

Акінчыц разгарнуў кнігу і зачытаўся італьянскай паэзіяй, ня мог спыніцца. Як аазыс, як цудоўны сярэднявечны пляцок сярод шэрай забудовы. Як адкрыццё пад бокам. Столькі разоў праходзіў побач, міма. Сёньня меў час, падумаў паглядзець карціны. А ў перадзалі аказалася невядомая кнігарня. Шчытна-шчытна ад кніг, якіх няма больш нідзе. Акінчыц нават разгубіўся. З чаго пачаць? Папрасіў з паліцы два тамы нябачанага дагэтуль аўтара мудрагельшчыны. "Палісандрыя", "Школа для дурняў", "Паміж сабакам і ваўком" — так, здаецца?

Перад вачыма плылі сотні вокладак на стале і стэляжах. Кундэра ў розных выданьнях. Бэкет, але раман — тоўсты, цікавы. Фаўлз, "Чорная вежа". О, Ален Роб-Грые! "Рэвалюцыя ў Нью-Ёрку", "праект". Таміна Пазаліні. І шмат чаго яшчэ. Купіў Кундэру і італьянскую паэзію. Са шкадаваньнем, не здаволіўшыся, пайшоў... Сёлета Акінчыц упершыню ўбачыў Італію. Прысмак яе адчуваўся доўга.

Шэрая кастрычніцкая раніца. Адразу за Слупскам на дарозе гармідар. Пажарныя. Людзі з абрэвіятурай на сьпінах "МНС". На ўзбочыне чорны шкілет згарэлага легкавіка. Здаецца, "опэль-кадэт". На траве на сьпіне бездапаможна ляжыць мужчына. З горла тырчыць і торгаецца нейкая трубка. У машыне абгарэлы труп. Ззаду, зьлева. Нейкія яшчэ людзі, легкавікі. Усе маўчаць.

**Працяг на старонцы 5.**

рыхтуецца да друку:

# Як мы пражылі год?

Калядны нумар "НН" падводзіць рысу пад годам вялікага юбілею. Пытайцеся ў шапіках "Белсаюздруку" і "Белпошты": у Менску 26-га, а за Менскам 27 сьнежня. А найлепш — падпісвайцеся. Гэта яшчэ можна зрабіць да 20 сьнежня.

ТЭМА НУМАРУ:

**ГОД НЯМЕЦКАЙ ПАЛІТЫКІ Ў БЕЛАРУСІ**

а таксама:

СЯРГЕЙ АСТРАЎЦОЎ **"15 ВАРЫЯНТАЎ АДНАГО ДЭКРЭТУ"**
СЛАВАМІР АДАМОВІЧ **"ГОД ЗАЦІШША ПЕРАД ГОДАМ БУРЫ"**
АРЦЁМ ЛУК'ЯНОВІЧ **"ПАСІНЕНЬНЕ БТ"**
ЛЕАПОЛЬД УНГЕР **"БЯЛГРАД ПАСЬЛЯ МІЛОШАВІЧА"**
АЛЯКСАНДАР ЯКАЎЛЕЎ **"РАСЕЯ: ВЫЗВОЛЬНАЯ ВАЙНА СУПРАЦЬ ЧЫНАВЕНСТВА"**

# УСПАМІН пра Рамана Скірмунта

## штрыхі да партрэту беларускага прэзыдэнта

Алесь Смалянчук

**— Ці мог бы Раман Скірмунт быць прэзыдэнтам Беларусі?**
**— Мог бы. Вопытны дзядзька быў... (Марыя Кучынская, 1919 г.нар.)**

***З матэрыялаў экспэдыцыі ў в. Парэчча Пінскага раёну. 21 жніўня 2000 г.***

У XX ст. беларусы, як і шмат іншых народаў Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы, уступілі на хвалі барацьбы за нацыянальнае Адраджэньне і за права "людзьмі звацца". Як ажыцьцяўленьне гэтага права, 25 сакавіка 1918 г. нарадзілася першая ў гэтым стагодзьдзі беларуская дзяржава — Беларуская Народная Рэспубліка. Аднак далейшыя гістарычныя падзеі рушылі такім шляхам, што сёньня выпадае казаць пра стагодзьдзе змарнаваных шанцаў і няспраўджаных надзеяў. Спроба зразумець, чаму Беларусь так і ня стала незалежнай краінай вольных людзей, прымушае ўглядацца ў канкрэтныя гістарычныя постаці, у дзейнасьці якіх адлюстроўваліся памкненьні і настроі розных грамадзкіх сілаў.

Мяне здаўна прыцягвае асоба Рамана Скірмунта (1868–1939). Ён нарадзіўся ў Парэччы на Піншчыне ў красавіку 1868 г. Намаганьнямі ягоных дзеда і бацькі гэты куточак Палесься ў другой палове XIX ст. стаўся адным з эканамічных цэнтраў паўднёвай Беларусі. У беларускім палітычным жыцьці Раман Скірмунт зьявіўся на пачатку XX ст. як краёвец. У сакавіку 1917 г. ён узначаліў Беларускі Нацыянальны Камітэт. Раман Скірмунт быў адным зь першых беларускіх дзеячаў, якія зразумелі гістарычную неабходнасьць барацьбы за дзяржаўны сувэрэнітэт. На чале ўраду БНР летам 1918 г. ён актыўна працаваў дзеля міжнароднага прызнаньня Рэспублікі. Пры ўмове далейшага ўмацаваньня беларускай дзяржаўнасьці Р.Скірмунт мог бы стаць верагодным кандыдатам на пасаду прэзыдэнта БНР. Вось некалькі эпізодаў зь ягонае дзейнасьці.

### ЭПІЗОД ПЕРШЫ. „ICH STEHE HIER UND KANN NICHTS ANDERS“

У жніўні 1917 г. Раман Скірмунт як былы дэпутат Думы быў запрошаны ў Маскву на Дзяржаўную нараду, якую склікаў Аляксандар Керанскі з мэтаю ўмацаваньня ўласных палітычных пазыцый. Але ўдзельнікі нарады выступілі з рэзкай крытыкай ураду. Зьяўленьне генэрала Карнілава яны сустрэлі сапраўднай авацыяй. Зала ўзьнялася, каб выказаць сымпатыі верагоднаму дыктатару Расеі. Не падняліся адзінкі. Сярод іх вылучалася постаць Рамана Скірмунта, які сядзеў у першых шэрагах у афіцэрскай форме. Абурэньне суседзяў ён вытрымаў з гонарам. Ураджэнец Піншчыны быў праціўнікам дыктатуры генэрала Карнілава і не зьбіраўся гэтага хаваць нават на сходзе па-пракарнілаўску настроеных палітыкаў.

Гэта быў прыроджаны баец, які захоўваў цьверозасьць думкі і разважлівасьць, нават калі супрацьстаяў агрэсіўнай большасьці. Ён ня быў папулістам і не падманваў людзей пустымі абяцанкамі.



На пачатку стагодзьдзя Р.Скірмунт рашуча выступаў супраць правядзеньня радыкальнай аграрнай рэформы. Ідэю адчужэньня памешчыцкіх земляў зь іх наступнай перадачай у дзяржаўны фонд, вельмі папулярную ў 1906 г. сярод думскіх дэпутатаў і значнай часткі расейскай грамадскасьці, дэпутат ад Менскай губэрні лічыў неадпаведнай эканамічным інтарэсам беларуска-літоўскага краю. Ліквідацыю панскага землеўладаньня ён разглядаў як замах на прынцып прыватнай уласнасьці, які не без падставаў разглядаўся ім у якасьці аднаго з нарожных камянёў цывілізацыі. З думскай трыбуны дэпутат заявіў, што перадача зямлі ў дзяржаўную ўласнасьць зробіць яе гаспадаром не селяніна, а чыноўніка. Ад гэтага прайграюць усе, апроч апошняга.

Ягоная прамова пры абмеркаваньні аграрнай праблемы выклікала моцнае абурэньне радыкальна настроенай залі. За прадстаўніком Меншчыны замацаваўся імідж "рэакцыянэра", "кансэрватара", "ворага бяднейшых сялянаў" і г.д. На самой справе Скірмунт быў прынцыповым прыхільнікам павелічэньня сялянскага землеўладаньня. Але ён разумеў, што няма простага сродку вырашэньня аграрнай праблемы.

У 1921 г. Раман Скірмунт спрабаваў не дапусьціць ратыфікацыі ў польскім Сойме дамовы, падпісанай у Рызе, якую большасьць польскай грамадзкасьці ўспрыняла як найвялікшы посьпех польскай зброі і дыпляматыі. Былы старшыня ўраду БНР разумеў. чым можа абярнуцца для беларускай зямлі панаваньне расейскіх бальшавікоў, бачачы, як пад чырвонымі сьцягамі адраджаецца ящчэ больш бязьлітасная і бесчалавечная Імпэрыя.

У асобе Рамана Скірмунта было нешта ад Марціна Лютэра, калі той падчас выступленьня на Вормскім саборы (1521) з гонарам кінуў натоўпу германскай арыстакратыі і вышэйшага духавенства: "На тым стаю і не магу інакш".

### ЭПІЗОД ДРУГІ. ГОНАР БЫЦЬ БЕЛАРУСАМ

На пачатку стагодзьдзя Раман разам са стрыечнай сястрою Канстанцыяй Скірмунт складаў лемантар на мясцовай гаворцы. Пазьней уладальнік Парэчча фінансава падтрымліваў "Нашу Ніву" і працаваў над слоўнікам беларускай мовы. Ёсьць зьвесткі пра ягоныя лірычныя вершы, напісаныя па-беларуску.

12 сакавіка 1917 г. Менскі аддзел Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны наладзіў у Менску сапраўднае сьвята — Дзень беларускага значка. Паўсюль прадаваліся значкі з нацыянальнымі колерамі Беларусі — белым і чырвоным. На вуліцах, у кавярнях і крамах гучала беларуская мова. У адным з кінатэатраў адбыўся шматлюдны мітынг, на якім зь вялікай прамовай па-беларуску выступіў кіраўнік Аддзелу Раман Скірмунт. Прысутныя прынялі рэзалюцыю, якая патрабавала аўтаноміі для Беларусі.

### ЭПІЗОД ТРЭЦІ. ПОСТАЦЬ ЯДНАНЬНЯ

Для палітычнай пазыцыі Рамана Скірмунта характэрнае імкненьне да кансалідацыі ўсіх палітычных сілаў Беларусі дзеля будучыні беларускай зямлі. Ягоная асоба — гэта асоба дыялёгу.

Ужо як краёвец Раман Скірмунт спрабаваў пераадолець тыя нацыянальныя й сацыяльныя перагародкі, якія падзялялі насельніцтва Беларусі на пачатку стагодзьдзя. У 1907 г. ён ініцыяваў стварэньне Краёвай партыі Беларусі і Літвы як палітычнай формы кансалідацыі й яднаньня тутэйшых нацыянальных рухаў. Адзін з пунктаў праграмы абвяшчаў роўнасьць усіх народаў ва ўсіх галінах жыцьця й магчымасьць свабоднага разьвіцьця іх культур. Пры гэтым падкрэсьліваліся правы літоўцаў і беларусаў, неабходнасьць прадастаўленьня ўсіх правоў палякам і жыдам, паразуменьне з расейцамі.

Партыя й сапраўды была створаная, але ад першапачатковай задумы галоўнага ініцыятара амаль нічога не засталося. Узьнікла палітычная арганізацыя земляўласьнікаў зь ліку беларускіх і літоўскіх палякаў. Р.Скірмунт нават адмовіўся ўваходзіць у яе склад.

У 1917 г. пасьля няўдалай спробы пераканаць Часовы ўрад Расеі ў неабходнасьці прадастаўленьня Беларусі аўтаноміі старшыня Беларускага нацыянальнага камітэту паспрабаваў аб'яднаць усе беларускія палітычныя сілы. На адно з паседжаньняў Камітэту ён запрасіў Марыю Магдалену Радзівіл, Эдварда Вайніловіча, Гераніма Радзівіла і іншых прадстаўнікоў заможнай і ўплывовай беларускай арыстакратыі, якія выказвалі выразныя сымпатыі да беларускага Адраджэньня. Раман Скірмунт зрабіў амаль немагчымае. Ён пераканаў арыстакратаў у неабходнасьці супрацоўнічаць з сацыялістамі дзеля будучыні Беларусі. Яны згадзіліся ўвайсьці ў склад Камітэту. На жаль, супрацоўнічаць адмовіліся сацыялісты. Зрэшты, апошнія й да Скірмунта ставіліся з насьцярогай.

Старшынюючы ў БНК, Раман Скірмунт захаваў за сабою пасаду віцэ-старшыні Менскага сельскагаспадарчага таварыства, уплывовай арганізацыі беларускіх палякаў-краёўцаў на чале з Э.Вайніловічам. У гэты час ён зрабіўся постацьцю паяднаньня беларусаў з палякамі. Адзін з польскіх дасьледчыкаў (Казімер Акуліч) акрэсьліў ягоную дзейнасьць як "апошні акт польска-беларускага сымбіёзу". Асоба Рамана Скірмунта адыграла не апошнюю ролю ў тым, што на працягу амаль усяго 1917 г. захоўваліся даволі прыязныя адносіны паміж мясцовай польскай грамадзкасьцю і беларускім рухам, а найбуйнейшая польская арганізацыя — Польская Рада Менскай зямлі — падтрымлівала незалежніцкія памкненьні беларусаў.

Атрымаўшы ў траўні 1918 г. паўнамоцтвы на фармаваньне ўраду БНР, Р.Скірмунт спрабаваў стварыць урадавую кааліцыю з усіх уплывовых палітычных партый. Аднак беларуская нацыянальная ідэя зноў ня вытрымала канкурэнцыі з вузкапартыйнымі праграмамі і асабістымі амбіцыямі палітыкаў.

...У кастрычніку 1939 г. Рамана Скірмунта вялі на сьмерць. Жыхарка Парэчча Марыя Мікалайчык (1920 г. нар.) распавядала, што парачане плакалі, а пан казаў: "Я з вамі разьвітваюся назаўсёды. Спадзяюся, што нікому не зрабіў нічога кепскага". Кажуць, што перад сьмерцю ён адмовіўся стаць сьпінаю да забойцаў: "Я ад людзей адварочвацца ня буду". У аднаго з забойцаў нават стрэльба выпала з рук, але загад "вызваліцеляў ад панскага прыгнёту" ўсё ж быў выкананы.

Забілі Рамана Скірмунта, забілі чалавека, які мог быць першым беларускім прэзыдэнтам. І ён цалкам адпавядаў бы гэтай ролі, бо быў разумным і добра адукаваным, меў вялікі палітычны і жыцьцёвы досьвед, ня быў абцяжараны ідэалягічнымі догмамі, любіў Беларусь і шукаў у палітычнай дзейнасьці ня ворагаў, а сяброў.

# Апошнія дні падпіскі

**Ідзе падпіска на першае паўгодзьдзе 2001 году. Можна падпісацца адразу на шэсьць месяцаў, а можна — толькі на квартал або месяц. У любым разе гэта дасьць Вам эканомію грошай.**

«Наша Ніва» — гэта 12 старонак інфармацыі і камэнтароў пра падзеі ў Беларусі і сьвеце штотыдня, гэта паўнакроўная беларуская культура, гэта жывы голас незалежнага беларускага грамадзтва. Аўтары і чытачы «Нашай Нівы» разам твораць краіну.

Дык чытайце і выпісвайце «Нашу Ніву»!

Менчукам нагадваем, што можна падпісвацца ня толькі на сваю паштовую скрынку, але й на шапік «Белсаюздруку», адкуль газэту можна забіраць ужо ў панядзелак або ў любы іншы дзень тыдня. Гэта зручна і амаль напалову таньней, чым купляць штотыдня.

Падпісны індэкс 63125. Падпіска на 1 месяц каштуе 964 рублі. Для менчукоў на шапік «Белсаюздруку» — 760 рублёў.

Падпіску на «НН» прымаюць на любой пошце, у многіх шапіках «Белсаюздруку» **да 20 сьнежня.**

# Пэрсона нон-грата

## *Ліст Зянона Пазьняка*

12 сьнежня Зянон Пазьняк накіраваў ліст міністру замежных справаў Нямеччыны, старшыню АБСЭ ды Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ з патрабаваньнем адклікаць зь Беларусі Ганса-Георга Віка. Зянон Пазьняк не адмаўляе прысутнасьці ў краіне місіі АБСЭ, лічачы яе карыснай, і разам з тым сьцьвярджае, што сп.Вік праводзіць у Беларусі не эўрапейскую, а чыста нямецкую палітыку і што яго
ная дзейнасьць ніяк не стасуецца з нацыянальнымі інтарэсамі Беларусі. Зянон Пазьняк падкрэсьліў, што аб прапанове Гансу-Георгу Віку пакінуць Беларусь асабіста паінфармаваныя сам нямецкі дыплямат і амбасадар Нямеччыны Горст Вінкельман. Сп.Пазьняк сьцьвярджае, што Вік – "пэрсона нон-грата ўва ўсім апазыцыйным Нацыянальна-Вызвольным Руху" – патаемна каардынуе сваю дзейнасьць зь беларускімі ўладамі. Апошнія абвінавачваюць Віка ў непрыхільнай дзейнасьці толькі дзеля таго, каб выратаваць становішча, стварыць яму алібі, — піша З.Пазьняк. "Зразумела, што сп.Віку лепш быць выдаленым па патрабаваньні Беларускай Вызвольнай апазыцыі", — піша Зянон Пазьняк. Разам з тым ён выказвае надзею, што рэжым Лукашэнкі мінецца, а дачыненьні Беларусі зь Нямеччынай застануцца добрымі.

**А.К.**

тэма наступнага нумару "НН"

## НЯМЕЦКАЯ ПАЛІТЫКА у Беларусі

Зянон Пазьняк чарговы раз вінаваціць Ганса-Георга Віка ў неразуменьні стратэгічных інтарэсаў Эўропы ў Беларусі. Рэжым папракае Віка ўмяшаньнем у нутраныя справы краіны Ці маюць яны рацыю? У наступным нумары "НН" – інтэрвію з Гансам-Георгам Вікам, які, справядліва ці несправядліва, стаў сымбалем палітыкі Бэрліна ў Беларусі, артыкул Міколы Пачкаева з крытыкаю тэорыі "нямецка-расейскае змовы", гутарка з Анатолем Сідарэвічам пра гісторыю і сучаснасьць беларускае палітыкі Нямеччыны "Наша вялікае шчасьце, што немцы ня сталі патронамі нашай дзяржаўнасьці", і апытаньне студэнтаў-дыпляматаў пра тое, які стэрэатып нямецкае палітыкі ў іх склаўся.

# Расьлі б у Воршы маёй мангустаны

Такой цёплай зімы я ня памятаю. Памятаю залеву ў навагоднюю ноч, але тая залева была сярод звычайнай зімы, з маразамі і сьнегам. Прырода пры канцы XX ст. нібы сыгналізуе чалавецтву пра глябальны экалягічны крызыс, які няўхільна насоўваецца на плянэту. Ужо пад Каляды, а на Полаччыне яшчэ ня бачылі сьнегу. На вуліцы густы туман — другі дзень ідзе дождж. Раней у маю галаву ня раз завітвала думка аб неадпаведнасьці назваў месяцаў – у кастрычніку ў Беларусі абавязкова выпадаў сьнег, а толькі пасьля лістапада ідзе сьнежань. "Не называць жа апошніх месяцаў восені па-зімоваму", — напэўна, гэтак палічылі нашыя продкі. Раней яны жылі ў згодзе з прыродай і нават словам не наважваліся яе пакрыўдзіць.

Сёньня ўсё па-іншаму. Паводле экалягічнай адукацыі беларусы выглядаюць на дзікуноў, якія ня ведаюць самага элемэнтарнага. І гэта нягледзячы на Чарнобыль. Здавалася б, у гэткай сытуацыі "зялёныя" ў Беларусі павінны быць магутнай і ўплывовай палітычнай сілай. Насамрэч такой палітычнай сілы ў нас ўвогуле няма, а большасьць жыхароў Беларусі да сёньня ня ведае, што такое радыяцыя і як яе сьцерагчыся. Беларусам здаецца, што глябальныя экалягічныя праблемы мінуць іх бокам, што іх можна перачакаць сярод нашых хмызоў, адседзецца ў родным зацішку сярод Эўропы. Але нават у Новай Зэляндыі, напэўна, ня вераць у тое, што можна пераадолець экалягічныя наступствы разьвіцьця сучаснай цывілізацыі без адпаведнай падрыхтоўкі і працы, інвэставаньня ў прыроду і пошуку альтэрнатыўных крыніцаў энэргіі. У рэальнае пацяпленьне клімату на плянэце, якое вучоныя абяцалі даўно, ужо вераць самыя зацятыя няверы.

Уладзімер Караткевіч у маладосьці напісаў верш "Вадарод". Паэт ганіць сьмяротную сілу вадароднай зброі, аднак перакананы, што сілу атаму можна падпарадкаваць на карысьць чалавецтву – напрыклад, растапіць "безнадзейнай Грэнляндыі мёртвы лёд". Караткевіч уяўляе:

*І прыйшло б да нас мора, сінясіняе,*
*Зь цеплынёю, з прыбоем, зь пяском залатым.*

Паэт фантазіруе — пра тое, як стала б добра ў родным краі:

*І расьлі б у Воршы маёй мангустаны*
*І альясы ў туманных лясных Лядах.*
*І ад пагані чыстая наша плянэта*
*Стала б вольнай, прыгожай, шчасьлівай навек,*
*Стала б лепшым брыльянтам кароны сусьвету,*
*Цёплым раем, якога чакаў чалавек.*

Падкрэсьлім, што гэты верш Караткевіч напісаў у юначым веку, нядаўна перажыўшы халодныя, галодныя ліхалецьці вайны. Вядома, гэтыя радкі нельга разумець літаральна, гэта абагульняльны вобраз, паэтычны троп. Але ўсё адно — як глыбока памыляўся Караткевіч. І як памыляюцца беларусы, ня зьвяртаючы на экалягічныя праблемы належнай увагі. Яшчэ нядаўна савецкія людзі, якія першымі паляцелі ў космас, думалі, што чалавек можа ўсё. На самой справе, адзінае, што ён можа дакладна, што залежыць ад яго волі – не рабіць кепскіх, неабдуманых справаў і ўчынкаў — а ў дачыненьні да прыроды ў першую чаргу. І як тут не згадаць мінулага асушэньня палескіх балатоў ды цяперашняга барбарскага вынішчэньня беларускіх лясоў?

Беларусь увесь час спазьнялася. З нацыянальнай кансалідацыяй, незалежнасьцю, дэмакратыяй, рынкавымі адносінамі. А цяпер з экалягічнай мабілізацыяй. Усе гэтыя спазьненьні маюць міжсобку простую сувязь. Без нацыянальнай кансалідацыі немагчыма дамагчыся незалежнасьці, без рэальнай незалежнасьці нельга ўсталяваць дэмакратыю, без дэмакратыі рынкавыя адносіны будуць мафіёзна-манапалістычнымі, бяз рынкавых адносін немагчыма сур'ёзна вырашаць экалягічныя праблемы. Вось і Расея ўзялася аднаўляць свой навуковы патэнцыял з фінансаваньня ваеннага комплексу. Толькі ці магчыма абараніцца ад экалягічных катастрофаў танкамі, ракетамі і субмарынамі?

**Алесь Аркуш**



Гавэл (зьлева) на сустрэчы зь беларускімі палітыкамі

МІХАЛ ЧЭРНЫ

### АПАЗЫЦЫЮ ПРЫМАЮЦЬ НА ВЫСОКІМ УЗРОЎНІ

*А.Бяляцкі, В.Вячорка, А.Лябедзька, А.Міхалевіч, С.Шушкевіч наведалі Прагу, дзе мелі спатканьні з урадоўцамі Чэхіі. Прыняў іх і Вацлаў Гавэл – гаварылі зь ім па-расейску. Нашы палітыкі таксама ўсклалі кветкі да помніка ахвярам Праскае вясны.*

## навіны за тыдзень

### БЮСЬЦІК ГІТЛЕРА Ў СЬВІСЛАЧЫ

У Сьвіслачы адшукалі стары помнік Сталіну ды хочуць паставіць яго ў парку побач з помнікамі Леніну, Траўгуту ды Каліноўскаму. Хай бы яшчэ бюсьцік Гітлера адкапалі гэтыя безгаловыя і бессардэчныя "плюралісты".

### СТЫХІЙНЫ ПРАТЭСТ У МАГІЛЁВЕ

15 сьнежня 500 працаўнікоў найбуйнейшага магілёўскага заводу "Хімвалакно" перакрылі рух на пр.Пушкіна: яны не атрымалі заробку. Улады пасьля гэтага выплацілі рабочым запазычанае неадкладна.

### СТРАЙК ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ

З 1 да 5 студзеня наступнага году ў краіне, найхутчэй, пройдзе ўсеагульны страйк прадпрымальнікаў, якія гандлююць на рэчавых рынках. Такое рашэньне прыняў іхны страйкам. Будуць пратэставаць супраць прынязцця дэкрэту аб адзіным падатку з прадпрымальнікаў, праект якога падрыхтаваны. Гэта паставіць прадпрымальнікаў на мяжу банкруцтва, лічаць гандляры. Калі дакумэнт будзе падпісаны, прадпрымальнікі не выключаюць пачатку бестэрміновай забастоўкі. Страты ад страйку будуць мізэрныя: пасьля Новага году абарачэньне гандлю зусім малое.

### ПРАТЭСТАНТЫ ПРАТЭСТУЮЦЬ

Пратэстанты выказалі публічны пратэст супраць трансьляцыі па БТ 40-хвіліннай стужкі "Экспансія", паказанай два разы – 26 кастрычніка і 2 лістапада. Зь іхных словаў, дзяржаўныя СМІ разгарнулі кампанію, якая мае на мэце выпрацаваць адмоўнае стаўленьне да пратэстанцтва. Да пратэсту далучыліся і кіраўнікі шасьцёх пратэстанцкіх цэркваў Украіны ды Расеі.

### СПРЭЧКІ ВАКОЛ МЕНСКІХ СЫМБАЛЯЎ

Менгарсавет абмеркаваў гімн і герб сталіцы. У гербе мо будзе зьмененая гама колераў неба, па-іншаму будуць выглядаць абрысы воблака, на якім стаіць Божая Маці з анёламі, а таксама іхныя постаці. Адмысловая камісія з 23 варыянтаў гімну папярэдне выбрала «Песьню пра Менск» кампазытара Алоўнікава. Але і гэтая да канца не задавальняе. Маркуецца абвесьціць конкурс на новы гімн.

### ДЗЕЦІ ЗАБЛУКАЛІ Ў ЛЕСЕ

11 сьнежня ў лесе ля Задзерцi ў Жабінкоўскім раёне заблукалі два 11-гадовыя хлапчукі. Іх шукалі каля паўсотні супрацоўнікаў МНС, лясной аховы, міліцыянтаў ды вяскоўцаў. А малыя самі выблукалі ды а 5-й раніцы прытупалі дахаты.

### БЕЛАРУСЫ ПРАДАЮЦЬ ЭНЭРГІЮ

У першым паўгодзьдзі 2001 г. Беларусь распачынае пастаўкі электраэнэргіі ў Польшчу й краіны Заходняй Эўропы зь Бярозаўскае ДРЭС. У год у Заходнюю Эўропу будзем экспартаваць да 600 млн. кВт электраэнэргіі. Такім чынам, Бярозаўская ДРЭС улучаецца ў польскую энэргасыстэму.

### ЧЭСКІЯ ВІЗЫ ПАТАНЬНЕЛІ

З 15 сьнежня віза ў Чэхію для грамадзянаў Беларусі будзе каштаваць $10 — амаль у 6 разоў таньней, чым раней. Пасьля ўвядзеньня візавага рэжыму ў Чэхію стала езьдзіць у 2—3 разы меней турыстаў, транзытныя паездкі таксама амаль спыніліся – было задорага.

### СЯДЗЕЦЬ!

Былы алмазавец Ігнатовіч і ягоныя хаўрусьнікі зь сілавых структураў, падазраваныя ў забойстве З.Завадзкага, а таксама яшчэ іншых людзей, ня будуць адпушчаныя пад падпіску аб нявыезьдзе, чаго дабіваўся іхны адвакат, — вырашыў менскі суд.

**Алесь Кудрыцкі паводле БелаПАН, Радыё Рацыя і БАРЦ.**

### ПАДАРУНАК ЗА ПАДАРУНАК

Студэнты Беларускага ўнівэрсытэту культуры не дачакалі паловы стыпэндыі, замест 12 тыс. ім пад Новы год выдалі толькі 7. Пратачыліся зьвесткі, што адміністрацыя рыхтуе вялізарную шоў-праграму ў Тэатры эстрады ў гонар перадачы яго ўладамі пад патранат унівэрсытэту. Плянуецца, што будзе прысутнічаць і "галоўны дабрачынца" краіны. А грошай, каб як сьлед яму аддзячыць, не стае. Вось і знайшлі просты выхад – сабралі паўстыпэндыі ў студэнтаў. Францускія студэнты ў падобным выпадку зрабілі б у будынку "альма-матэр" акупацыйны страйк, а беларусы толькі бурчаць сабе пад нос, "якія ўсе казлы"...

**Н.Дз.**

## дзе варта быць

## *Я нарадзіўся тут*

"Песьнярок", "Народны альбом", "Сьвяты вечар"... Цяпер "Я нарадзіўся тут" – чацьверты супольны музычны праект беларускіх рокмузыкаў. Ягоная прэзэнтацыя адбудзецца 19 сьнежня ў канцэртнай залі «Менск». У праграме – патрыятычная лірыка, новыя аўтарскія творы і апрацоўкі беларускай клясыкі. На імпрэзе можна будзе набыць і сам кампакт з 21 песьняй, вокладку якога аформіў Алесь Пушкін. Пачатак а 19-й.

## *Рок-фэст у Горадні*

22—23 сьнежня ў Горадні адбудзецца рок-фэст "Тры шрубы". У фэсьце бяруць удзел "Стары Млын", "Бяз Назвы", DJ Новель, "Цягні-Піхай","Гравіцапа", "Сьцерва", "Кальян", "Аструс","Млечны Шлях", "Rasta", "Persona Gratto", "Jungle X-Mas", "Gods Tower", "LSD". Канцэрт распачнецца а 18-й у канцэртнай залі "Горадня".

**Алесь Кудрыцкі**

Vydaviectva "Naša Niva" paviedamlaje Vam pra toje, što zaviaršajecca praca nad **Słoūnikam Biełaruskaje Movy** (klasyčny pravapis). Paśla Novaha hodu słoūnik budzie całkam źmieščany ū Siecivie: **http://slounik.hypermart.net**

Słoūnik składzieny na padstavie raspracovak Vincuka Viačorki i pastanovaū Praskaj pravapisnaj narady. Redaktar słoūnika — Siarhiej Šupa.

Internetaūskuju publikacyju aūtary razhladajuć jak pilotnuju i zaprašajuć usich da abmierkavańnia: u Słoūniku jašče šmat supiarečnaściaū i niedakładnaściaū. Paśla razhladu ūsich prapanovaū, u 2001 h. planujecca vydańnie vyvieranaj versii Słoūnika ū knižnym farmacie.

ВОДГУК

### НЕ ЧАПАЙЦЕ ПАЭТА!

**Вадзіму Доўнару**

Ён паэт, і калі прыйшла нейкая прыгажуня-журналістка і пачала задаваць свае наіўныя і зацёртыя пытаньні, то Паэт мог убачыць у ёй галоўнае - Жанчыну. Яму, магчыма, у гэты момант больш цікавым і важным было спазнаньне жанчыны...

Быць Паэтам вельмі няпроста, у яго няма ахоўнай абалонкі, як у астатніх людзей, і таму ён успрымае ўсё, што адбываецца ў Сусьвеце, у Макра- і Мікракосмасе, вельмі шчыра і нават хваравіта. Тым Паэт і каштоўны для здаровага і цывілізаванага грамадзтва, што ён заўважае небясьпеку тады, калі ўсё астатняе чалавецтва, Вадзіме, п'е піва і гучна рагоча.

Паэт у побыце бездапаможны, свой асабісты лёс ён складае так-сяк, і ён адчувае, што застаецца тады Паэтам, калі ў яго існуе свабодны радыкал. Паэт свабодны і таму няшчасны, ён імкнецца да людзей і адштурхоўвае людзей, ён кахае жанчын і ўцякае ад жанчын...

Ён існуе ў стане "свабоднага радыкала" - гэта псыхалягічны стан, калі чалавек адкрыты, востра і тонка ўспрымае рэчаіснасьць: сьнег, дождж, жанчын, надвор'е, палітычныя абставіны, гістарычны час, бег імгненьняў і яшчэ тысячы і тысячы розных зьяў, рэчаў, пачуцьцяў, меркаваньняў, пахаў, дотыкаў... Калі Паэт сустракае Жанчыну, ён гасіць, зьвязвае свой "свабодны радыкал", робіцца шчасьлівым і праз нейкі час ужо не ўспрымае так востра рэчаіснасьці і, значыць, перастае быць Паэтам.

Паэт узвальвае на сябе боль грамадзтва, таму ён такі непастаянны, такі нявыхаваны, за шчырай усьмешкай ён заўважае няшчырасьць альбо здраду. Таму сапраўдныя Паэты жывуць так мала.

Не чапайце Паэта! Вам яго не зразумець, бо вы не Паэт.

**Кастусь Травень, Менск**

ЛІСТЫ Ў РЭДАКЦЫЮ

* * *

Хачу вам распавесьці, што я пачуў на ўласныя вушы ад аднаго з пралетараў.

– Гэта ж мая малая (дачка) такое быдла. Усё на шкоду робіць. Колькі я яе ні перыў, усё адно паскудзтва чыніць. І чым мацней перу, тым больш зацятая робіцца Вось урода!

(Ад тых словаў дый ад яго самога мне агідна зрабілася.)

– А аднойчы, слухай, што ўтварыла. Пайшоў я ў садок яе дадому забіраць. А яна выхавацельцы нагаварыла, што я дома напускаю ваду ў ванну, распранаю яе і таплю. Перад тым мая з малой (дачкой) "*Частный детектив*" чытала. (Што мяне зьдзівіла, дык гэта адсутнасьць прэтэнзій да жонкі, якая бавіла малую пэўна ж не дзіцячай чытанкай.) Выхавацелька да мяне: "Што вы такое робіце?" Я плюнуў, прыйшоў дамоў ды кажу сваёй: "Ідзі забірай свайго вырадка сама". Пайшла. Там адперыла ды дамоў прывяла.

Ён шмат чаго распавядаў, але я сышоў, каб ня чуць тую брыдоту. Болей за ўсё мяне ўразіла сцэна, якую я намаляваў у думках: вечар, на канапе, асьветленай мяккім сьвятлом, сядзіць маці з дачкой, дачка пяшчотна прытулілася да маці і слухае, як тая ёй чытае газэту "ЧД".

Пэўна, гэта вынятак, бо простых нармальных людзей усё ж болей. Але раздражняе, што ён "узьняў свой сьцяг высока і добра пачуваецца ў гэтым сьвеце".

Тую гісторыю чулі я і яшчэ двое. Дык адзін слухаў да канца і ўсё нешта там хітаў галавою, кшталту, "я цябе разумею". А я і другі спадар моўчкі адасобіліся ад таго. Неяк не хапае ня тое што моцы, а жаданьня, каб варухнуць вуснамі і вымавіць словы: ...? Нават словаў я знайсьці адразу не магу, толькі эмоцыі.

**Генадзь, Менск**

### ЯКІ БАЦЬКА, ТАКІ СЫН

Відаць, Лукашэнка сур'ёзна пакрыўдзіўся на былога генпракурора, зьняўшы яго з гэтай пасады. Паводле самога гэтага факту нельга меркаваць аб зьмене стаўленьня былога прэзыдэнта да былога старшыні Рэспубліканскай пракуратуры: тут зьняў, там пасадзіў (у новы цёплы мяккі фатэль ці на халодныя цьвёрдыя нары – неістотна). Але існуюць і пабочныя зьявы, якія сьведчаць аб стане рэчаў у атачэньні аднога з кандыдатаў у прэзыдэнты на 2001 год.

Так, на юрфаку БДУ, дзе вучыцца (пакуль яшчэ) сын нямілага цяпер А.Бажэлкі, днямі зьявілася паведамленьне аб маючых адбыцца выключэньнях, дзе ў ліку першых фігуравала вышэйзгаданае прозьвішча. Выключаць небараку ці не – яшчэ ня факт, але пахваляюцца, безумоўна, прымусяць. Мажліва, што гэта помста ці спосаб псыхалягічнага ціску на Бажэлку-бацьку, які, відаць, альбо занадта шчыраваў у наглядзе за законнасьцю ў Рэспубліцы Беларусі, альбо не дагледзеў і не дасачыў за некім ці за самім сабой.

**Наталька Базылевіч, Менск**

# Poeti italiani

**Працяг са старонкі 1.**

Нямая сцэна. Адзін толькі працягвае з брандспойту густа заліваць згарэлы опэль белым шумам. Дарога перагароджаная. Акінчыц нават акуляры выняў, каб лепей разгледзець. Хаця звычайна адварочваецца, калі ўсе кідаюцца да шыбаў зірнуць на аварыю. Ён упершыню ўбачыў не разьбітую, а згарэлую машыну. Чалавека, які канае. Гэта не магло ня ўразіць.

Астроўскі збочвае ўлева — праз пас травы на сустрэчную паласу, каб аб'ехаць месца здарэньня. Хвіліну яны маўчаць. Акінчыц загаворвае першым:

— А "хуткай" дагэтуль няма. Ці вучаць міліцыянтаў аказваць дапамогу? Амэрыканскія паліцыянты нават роды прыняць могуць. А нашы — толькі дрыкамі лупцаваць.

— Думаю, і нашы могуць... Туман, напэўна, быў.

— Але каб згарэла машына!..

— Замыканьне. Бэнзын выцек. Як паходня...

Астроўскі ўключыў радыё, панаціскаў розныя станцыі. Пачуўся ўпэўнены незнаёмы голас. Эмігранцкі. Акінчыц упершыню чуў. Прычым якасьць добрая. У горадзе не чутно зусім. Перадалі, што Чыгрын адмаўляецца ад другога туру.

— Канечне, калі ўбачыў, што няма шанцаў, — не стрымаўся Астроўскі. — А чаго было лезьці? Думаў, ён іх прапусьціць? Байкот парушыў. І што цяпер? Поўнае фіяска!

— Зараз на выбары прэзыдэнцкія кінецца, — выказаў меркаваньне Акінчыц.

Зрэшты, гэта было агульнавядома.

Як бы абвяргаючы ягоныя словы, радыёголас паведаміў, што Чыгрын ня стане вылучацца, калі будзе знойдзена кампрамісная для ўсіх асоба.

— Пабачым, — скептычна мовіў Астроўскі.

— Баюся, што ўсе палезуць, і жук і жаба. У палякаў таксама дзесяць удзельнікаў было. Паўпрацэнта некаторыя набралі.

У радыё загаварылі пра тое, як у пушчы доблесныя авіятары трапна расстралялі з паветра помнік паўстанцам Каліноўскага, які не разбурылі сваім часам нават камуністы. Мясцовыя патрыёты сабралі грошы і паставілі новы. Далей на радыё апавядалі пра бой паўстанцкага атраду з карнікамі, пра дапамогу гарыбальдыйцаў беларусам. Акінчыц злавіў сябе на тым, што яму цікава. Цікава слухаць пра тое, што ведаў. Ён даўно не зважаў на падобныя публікацыі ў газэтах. Але зараз ён усьвядоміў, што гэтая тэматыка зноў зрабілася забароненай на тэлебачаньні і ў дзяржаўнай прэсе. Цікава яшчэ таму, што радыё — не газэта, ня трэба рабіць ніякага намаганьня. Можна нават заплюшчыць вочы.

Ім сустрэліся на дарозе яшчэ дзьве аварыі. Перакуленая дагары коламі фура пад адхонам, каля якой завіхаліся людзі. Здарэньне адбылося побач з дарожным шынком і аўтастаянкай. За сто-дзьвесьце мэтраў. Заснуў, ці што? Пазьней давялося нават прытармазіць. Перад імі з даволі глыбокага долу, дзе цякла рачулка, выцягвалі аўтобус. Зьнякавелыя прыгаломшаныя пасажыры цягнулі ўгору вялізныя "матрацныя" торбы з крамнінай.

У сталіцы Акінчыц пайшоў у радыёбюро — пакінуць гутарку з Астроўскім. У антыфашысцкім фронце ён апынуўся ўпершыню. Там прадавалася ягоная кніжка. Атрымаў грошы, адразу выдаткаваўшы іх на калядныя запісы і на Забэйду. У яго выкананьні, замест рамансаў, аказаліся нецікавыя для Акінчыца песенькі. Але ў гэтым ён пераканаўся пазьней. Наступнай была газэтная рэдакцыя. У кампутары там вісеў ягоны тэкст з крывулькамі накшталт музычных знакаў, дасланы ім праз электронную пошту. Італьянскія ўражаньні.

Аб месцы сустрэчы з Астроўскім было дамоўлена яшчэ па дарозе ў сталіцу. Акінчыц прыйшоў крыху раней. Ужо сьцямнела, але сталіца асьвятлялася някепска. Чароды машын шамацелі коламі, імкліва рухаючыся па пляцы. Гарэлі жоўтыя ліхтары, сьпяшаліся ня людзі нават — здані. Рабілася халаднавата, асабліва на ветры. Акінчыц стаў за рог, разглядаючы цёмна-чырвоны храм, які быццам змагаўся зь цемрай. Яму падумалася: калі на цэнтральным пляцы сталіцы не цыбуліны, а каталіцкі храм, гэта значыць, што горад павінен быць эўрапейскім, а не губэрнскім. Нэаготыка, якой захапляліся, напэўна, нават першыя сакратары. Інакш немагчыма вытлумачыць, як яго не разбурылі, пакінулі ў суседзтве з валатоўскай лысай статуяй.

На выезьдзе іх спыніў сэржант. Забраў дакумэнты, недзе хадзіў. Вярнуў моўчкі. Ні прабачце, ні да пабачэньня, ні — пагатоў — шчасьлівай дарогі. Астроўскага гэта зьнянацку раззлавала. Пэўны час яны маўчалі. Загаварылі пра будучыя выбары.

— Ён мяне ненавідзіць і баіцца, — пачаў Астроўскі. — Калі я ўсё ж рашуся пайсьці, значыцца, я буду ўжо гатовы да любых нечаканасьцяў, нават да найгоршага. Я ведаю, што ён ня спыніцца ні перад чым.

— Дыктатары ўсе аднолькавыя.

— Хаця часам паглядзіш на наш народ: нічога яму ня трэба, абы толькі скварка і чарка. І ці варта змагацца, рызыкаваць дзеля яго?

— Ды не дзеля яго, я думаю. Калі ў цябе ёсьць імпэт, калі адчуваеш у сабе сілы — варта паспрабаваць. Дзеля нейкай гістарычнай справядлівасьці, дзеля адказнасьці. Маглі, мелі якісьці шанец, а не паспрабавалі. Яны, да нас, зрабілі, што маглі, не атрымалася. Зараз наша чарга. Інакш ён можа праседзець да канца сьвету.

— Так, мы нічым ня горшыя за іншых. За суседзяў. Нічым. Павінны жыць, як яны. Мне галоўнае — за дзяцей, унукаў крыўдна. Пакінуць такой краіну, каб яны гібелі, каб ня бачылі сьвятла наперадзе... Хаця, як цяпер пішуць, беларусы могуць увогуле зьнікнуць.

Яны ехалі ў цемры, краіна не асьвятлялася. У рэдакцыі была размова пра Астроўскага. Што прозьвішча ў яго станоўчае і для заходнікаў, і для ўсходнікаў, не зважаючы на шляхецкі канчатак. Драматург быў такі з Паволжа, на маскоўскіх сцэнах дагэтуль ставіцца, іншы — пісьменьнік — раманы пісаў пра родную савецкую ўладу. Карацей, да народу з прозьвішчам такім выходзіць можна. Гаварылі пра будучае інтэрвію з Астроўскім і пра фатастудыю, дзе яму наробяць выдатных партрэтных здымкаў. Студыя — вядомая, здымаліся ў ёй апазыцыйныя дзеячы. Праўда, хтосьці ўжо апынуўся за кратамі, нехта нават зьнік. Засталіся фатаздымкі.

Акінчыц вяртаецца ў думках да кніжак, набытых у сталіцы. Італьянцы свайго дучэ перажылі. Зрэшты, каб не абставіны, усё магло аказацца інакш. Напрыклад, каб італьянцы выйгралі вайну, ён перажыў бы шмат каго. Як Франка. Альбо ПінаЧэт. Каб раптам выйгралі вайну, яны б хавалі яго шыкоўна — урачыста, але адначасова трагікамічна. Як у апавяданьні Гуэры.

Апошні ў кніжцы італьянскі верш быў пра кітайскага імпэратара. Як яму падаравалі гіганцкі каменны "шалік", каб ратаваў ад сівераў. Ну, а калі не дапаможа, дык хай стане адзінай прыкметаю Зямлі, якую можна ўбачыць зь Месяца...

"А ці бачна нас з чорнага небнага прадоньня, з космасу? — квола падумаў Акінчыц, каб толькі падумаць. — Два жоўтыя пучкі — для асьвятленьня шляху, для змаганьня зь цемрай, і пара чырвоных сьветлякоў ззаду".

**22 лістапада 2000 г.**

СПОРТ

# Надзярэм усіх!

## *Хакейная дружына добра разьмялася на міжнародным турніры ў Славаччыне*

Супернікамі нашых у карпацкім Трэнчыне былі гаспадары – віцэ-чэмпіёны сьвету, швайцарцы ды нарвежцы. Нашы прайгралі славакам 0:1, згулялі ўнічыю з швайцарцамі 1:1 ды на разьвітаньне зрабілі нарвэскую адбіўную па-беларуску – 4:1!

Праз паўтара месяца нашую каманду чакае адбор на Алімпіяду ў Солт-Лейк-Сіці'2002. Каб забіць сабе месца на амэрыканскім лёдзе, трэ будзе 8—11 лютага ў Осла стрэцца зь немцамі, украінцамі ды нарвэжцамі і спакойненька знайсьці аднаго лішняга. Астатнія трое змогуць сьніць далёкае Салёнае возера.

Чэмпіянат сьвету пачнецца пры канцы красавіка ў Нямеччыне. На папярэднім этапе беларусы будуць гуляць у адной абойме з чэхамі, немцамі ды швайцарцамі. Да вясны яшчэ – да Перуна часу, а во нашай моладзевай брыгадзе засталося каля тыдня да пачатку чэмпіянату сьвету ў групе А, які пачнецца ў Маскве ды Падольску ў ІІ-м тысячагодзьдзі, а скончыцца ўжо ў ІІІ-м. Там мы пазмагаемся з гаспадарамі, канадцамі, швайцарцамі ды фінамі. Супернікі — на любы густ, ды ўсіх іх трэба драць. Між іншым, дзеля разагрэву перад візытам у Масковію беларусы ў Менску згуляюць два матчы з адмысловай зборнай расейскай сталіцы.

Наймалодшая ж зборная – юніёрская — увесну паднатужыцца ў першым дывізыёне чэмпіянату сьвету, каб вярнуць Беларусь у эліту. Ганьба, калі замест нас туды ўскочаць датчане, японцы ці карэйцы. Усе хакейныя каманды будуць браць прыклад зь біятляніста Сашурына, які на гэтым тыдні выйграў першы беларускі мэдаль у сэзоне.

**Багдан Арлоў**

## *Рыхтуецца да друку*

"Ня трэба ж быць нэграм старэчых гадоў і выракацца Міцкевіча толькі за тое, што ён не пісаў па-беларуску! Не пакідайце Міцкевіча нашага, шануйце яго, бо шмат было такіх народаў, што страцілі найперш Міцкевіча свайго, а потым і Шэксьпіра, і Дантэ, і Гамэра свайго страцілі. Беражэце Міцкевіча нашага, такога ж людзкага, як і польскі, як і ўсе іншамоўныя Міцкевічы! Беражэце сяброў яго, філяматаў ды філярэтаў (як менскіх, так і слуцкіх), беражэце аматараў яго, дасьледчыкаў яго й перакладчыкаў яго беражэце й не пакідайце, каб ня ўмёрлі!"

**Андрэй Хадановіч**

"Доля клясыкаў незайздросная: іх ня любяць дзеці. Школьнікі мусяць вучыць клясычныя творы на памяць, пісаць паводле тых твораў дыктоўкі і шпаргалкі перад іспытамі. Клясыкаў любяць настаўнікі, чыноўнікі і наагул усе, хто мае якую-кольвек уладу.

Да Міцкевіча ў Польшчы ставяцца гэтаксама, як у нас – да Купалы, а ў Нямеччыне – да Гётэ. Яны настолькі ўвайшлі ў канон нацыянальнае культуры, што пры ўсім жаданьні ўжо не дадуць рады зь яго выйсьці. Бадай, адзіная надзея для клясыкаў узгадаць маладосьць і смак жывой творчасьці – іхныя прыхільнікі ў замежжы".

**Юрась Барысевіч**

**СТАРОНКА АДАМА МІЦКЕВІЧА – У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ "НН".**

# Задніца Эўропы

Уладзімер Арлоў

Вас прыкладна шасьцёра.

Вы стаіцё на вышыні кілямэтру над роўнем мора. Далёка ўнізе — белыя дамы й чырвоныя дахі вёскі Леўкара, дзе некалі жлукціў віно і займаўся любоўю зь мясцовымі юнакамі Мікелянджэлё Буанароці, што вандраваў тут у пошуках знакамітых кіпрыйскіх карункаў.

Вы — гэта:

ты сам, натхнёны горнымі краявідамі і літрам чырвоненькага;

прафэсар Маскоўскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту Яша, які мае пэўныя праблемы з вэстыбулярным апаратам;

адстаўны цыркавы артыст, а цяпер філёзаф Віктар, муж маскоўскай пісьменьніцы, дзякуючы якой ён у часы СССР аб'езьдзіў Піцунду, Кактэбэль і ўсе астатнія гэтак званыя дамы творчасьці, дзе амаль заўсёды меў магчымасьць выпіць зь беларускім пісьменьнікам Алесем Асташонкам, што колькі гадоў таму зьнік зь Беларусі, але не з айчыннай літаратуры;

Дзіма, маладая акулярыстая асоба неакрэсьленае прафэсіі, таксама з Масквы, падобная, зрэшты, да галоўнага героя аповесьці братоў Стругацкіх "Панядзелак пачынаецца ў суботу";

Дзімаў прыяцель пецярбуржац Саша, мядзьведзеватае дабрадушнае стварэньне, якое ведае пра нетрадыцыйную сэксуальную арыентацыю Мікелянджэлё (як і пра тое, што генію эпохі Рэнэсансу надаралася наймаць кілераў, каб атрымаць выгодную замову), якое пяшчотна абдымае Дзіму і чамусьці лічыць патрэбным паведаміць нам, як учора яны хадзілі здымаць "дзевачку" (аповед гучыць абсалютна непераканаўча; гэтаксама паэт Анатоль Сыс, прыкладам, мог бы распавядаць, што гідзіцца гарэлкі);

ваш камандзір, кіроўца "джыпу" і праваднік Жора, што нарадзіўся ў Растове-на-Доне, але ўжо адслужыў у кіпрыйскім войску, далікатна кажучы, ня любіць туркаў і добра вывучыў старажытную гісторыю і культуру сваёй другой радзімы, у прыватнасьці, ведае, што ўсе чатыры кананічныя эвангельлі напісаў тутэйшы кіпрыйскі чалавек, якога так і клікалі — Эвангэлёс.

Прафэсар Яша трымаецца думкі, што эвангелістаў было ўсё ж чатыры, прычым усе яны чамусьці аказаліся габрэямі. Цэлую дарогу ваш старэйшы маскоўскі сябар дыскутаваў з Жорам, які ў якасьці контраргумэнтаў выбіраў штораз круцейшыя ды небясьпечнейшыя віражы, пад'ёмы й спускі. У прафэсара Яшы застаецца апошні аргумэнт. З бледнай прабачліваю ўсьмешкай ён перагінаецца цераз парапэт аўтастаянкі і ванітуе на навакольныя кактусы і на апанаваную турыстамі вёску Леўкара.

Жора мэлянхалічна зрывае дзікую горную кветку і ўскладае яе да двух мармуровых помнікаў партызанам, расстраляным напрыканцы 50-х гадоў праклятымі ангельскімі каляніза тарамі.

Ты думаеш пра пэрспэктывы айчыннага партызанскага руху ў XXI стагодзьдзі.

Прафэсар Яша зноў ванітуе на вёску, камяні якой памятаюць Мікелянджэлё і гарачае перарывістае дыханьне ягоных каханкаў.

Дзіма з Сашам абдымаюцца, і табе робіцца за іх радасна.

Філёзаф Віктар прапануе дабавіць.

Жора крыху зьдзіўлены. Жора памятае, што на абедзе ў вясковай тавэрне Віктар ужо прыняў на грудзі найменей два літровыя збанкі.

Адрозна ад віна, якое ў той тавэрне турыстам дазваляецца піць дасхочу, мяса ў вінным соўсе з каляндрай вам падалі роўна 18 кавалкаў, зь якіх філёзаф паклаў сабе адразу сем, пасьля чаго запатрабаваў дабаўкі. Ты ўявіў, як Віктар выпіваў з Алесем Асташонкам і зь нечалавечым апэтытам зьядаў Алесеву закусь, і ў табе закіпела крыўда за беларускую літаратуру.

Тым часам разнэрваваны гаспадар прынёс латушку зь яшчэ пяцьцю кавалкамі. Філёзаф задуменна пацягнуў латушку да сябе, аднак ягоны цыркавы спрыт быў ужо ў мінулым, і ты, дробязны, злапамятлівы, але справядлівы, адабраў у расейскага брата мяса і падзяліў яго паміж едакамі не па-брацку, а пароўну.

Прафэсар Яша трэці раз ванітуе на маляўнічы краявід нечым памаранчавым.

Філёзаф Віктар з надзеяю глядзіць на цябе, бо ведае, што запасьлівы беларускі брат прыхаваў з узьбярэжжа пару літраў віна.

Саша зь Дзімам засьцілаюць камяні газэтай. Гэта кіпрыйскі расейскамоўны тыднёвік, які называецца проста *"Попка"*. На першай літары лягатыпу сядзіць гэтая самая гаваркая птушка, якую некаторыя нашыя грамацеі мянуюць "папугаем" (завецца ж яна на не сапсаванай расейшчынаю беларускай мове чыючок). Але ня ўсё так адназначна, бо побач з чыюком прысутнічае і самая сапраўдная, вельмі нават неблагая попка, хоць, на тваё беларускае вока, зусім не такая дасканалая й спакусьлівая, як тыя, што надзвычай часта трапляюцца ў нашым нацыянальным кантэксьце.

Нават вельмі павярхоўнае знаёмства са зьместам *"Попкі"* паміж шклянкамі чырвоненькага нараджае ў тваім сэрцы трывогу за будучыню брацьняга Кіпру. Выяўляецца, што ўва ўсіх гарадах краіны ўжо ёсьць расейскія школы; што і ў самай задрыпанай вёсцы можна глядзець *ОРТ, РТР, НТВ, ТВ-6, ТНТ, ТВ-Центр, НТВ-"Боевик", "Мир кино"* і *"Наше кино"*; што ўва ўсіх шапіках Кіпру прадаецца кніга *"русского писателя-киприота"* Валянціна Іванова "Апошні рэйс фюрэра" (Іваноў сустрэў на Кіпры чалавека, які разам з Гітлерам і Борманам у апошні момант саскочыў на лятучай талерцы з райхсканцыляры ў запаветную гімалайскую Шамбалу); што *"монах 36 лет, женат, очень мужественный, благородный, умеющий нежно обращаться с женским полом, хочет познакомиться со стройной, замужней и с хорошими манерами женщиной для страстных эротических моментов, тел. в Никосии 20469" etc., etc...*

Прафэсар Яша, глыбока дыхаючы, шпацыруе ўсьцяж парапэту.

Філёзаф Віктар вырашае на ўсялякі выпадак удакладніць, як правільна: Алесь Асташонак ці Алесь Паташонак.

Дзіма апавядае показку пра тое, як, сустрэўшы ў лесе Чырвоную Шапачку і высьветліўшы, што тая нясе бабулі загорнутыя ў паперу піражкі, Шэры Воўк запатрабаваў неадкладна аддаць яму паперку; апавядае і пад заміляваным Сашавым позіркам грацыёзна выцягвае з-пад пакетаў зь віном частку *"Попкі"*.

Ваш камандзір Жора шэптам лаецца матам, што ўвайшоў у ягоную сьвядомасьць дзякуючы растоўскай маме і суроваму тату — вэтэрану змаганьня за незалежнасьць, якога кіпрыйскія падпольшчыкі некалі пад кулямі праклятых ангельскіх прыгнятальнікаў пасадзілі на рыбацкі баркас і са скупой мужчынскай сьлязінай выправілі па навуку ў вялікую і магутную краіну Саветаў, дзе яго навучылі піць "вогненную ваду", брыдка лаяцца і спакушаць растоўскіх цнатлівак. (Хоць нехта й мяркуе, што "растоўская цнатліўка" — гэта аксюмаран, але, напоўна, тады, у савецкія часы, калі ў нас не было сэксу, цнатліўкі бераглі й пялегавалі свой найвялікшы скарб дзеля кіпрыйскіх патрыётаў нават у Растове-на-Доне, які Жора непатрыятычна называе Растовам-на-дне.)

Жора мацюкаецца, бо наперадзе ў праграме вашага аднадзённага сафары яшчэ наведваньне віннага заводу й вадаспаду на вышыні 1650 мэтраў над роўнем Міжземнага мора.

...Візыт на вінны завод, асабліва падзеі пасьля дэгустацыі, ты ўспамінаеш фрагмэнтарна. Усё гэта нагадвае дзіцячы калейдаскоп са сьветлых і цёмных шкельцаў. Напрыклад, ты выразна памятаеш, як у размове з паарлелым пасьля ванітаў прафэсарам Яшам ты выкрываў расейскага калегу Фаменку ў тым, што той зусім не з навуковых пазыцыяў адмаўляе існаваньне ў расейцаў мангола-татарскага прыгнёту, затое табе ані не зразумела, як у тваім заплечніку апынуліся дзьве новыя пляшкі чырвонага, што надзвычай прыдаліся на вадаспадзе, дзе тэмпэратура вады не падымаецца вышэй за 7°С, але ж Дзіма пра гэта ня ведае і прагне яшчэ болей спадабацца мядзьведзю Сашу і таму з жыцьцерадасным ёкатам *"Е...ть в рот!"* скача пад ледзяны струмень ува ўсёй экіпіроўцы ўлучна з мабільнікам. Ты цудоўна памятаеш, як вы, быццам фэдэралы-выведнікі — Хатаба й Басаева, шукалі ў навакольлі вадаспаду WC, аднак ніяк ня можаш узгадаць, як вам удалося з годнасьцю выйсьці з гэтае, такой знаёмай з жыцьця ў РБ, сытуацыі.

Потым прыроду й сьведамасьць агортваюць густыя паўднёвыя прыцемкі, ад якіх цябе ратуе кароткі асьвяжальны сон дзесьці паміж Пафосам і Лімасолам.

Тым самым Пафосам, дзе некалі выйшла з марское пены Афрадыта, якую, як сьведчыць паданьне, мясцовыя пастухі, не валаводзячыся, пазнаёмілі зь зямнымі рэаліямі, пазбавіўшы нявіннасьці проста на прыбярэжным жвіры.

І тым самым Лімасолам, дзе кароль Рычард Ільвінае Сэрца, заваяваўшы Кіпр, вянчаўся з Бэрэнгарыяй Наварскай і дзе прытомленыя крыжовымі паходамі рыцары занялiся вырабам разрэклямаванага дэсэртнага віна "Камандарыя", якое жыхарам нашых шыротаў ты зусім не рэкамэндаваў бы.

Твой глыбокі й здаровы сон, у якім мільгане цалкам цьвярозая думка, што — каб нарадзіцца на Кіпры — Афрадыта забрала прыгажосьць ува ўсіх тутэйшых жанчын, гэты сьветлы жыцьцясьцьвярджальны сон, дзе таксама будзе месца подзьвігу, трагічна перапыніць філёзаф Віктар, які на крутым павароце зваліцца на цябе разам з прафэсарам Яшам, што, на шчасьце, абванітаваўшы старажытную вёску Леўкара, ужо анічога ня піў і ня еў.

Далей табе давядзецца, як казаў твой маёр у Савецкай Арміі, *"бортствовать"*, абмацваючы падбітае вока і краем вуха прыслухоўваючыся да разважаньня філёзафа-артыста, якому вяла пярэчыць зьнямоганы прафэсар МДУ, што чамусьці дагэтуль ня зьехаў у родныя палестыны, якія зараз знаходзяцца ўсяго за нейкую сотню кілямэтраў і, хочацца верыць, уладна клічуць яго.

Але пакрысе сэнс сылягізмаў чалавека, што неадназова выпіваў з А.Асташонкам, даходзіць да цябе, і ты канчаткова прачынаешся, нібы певень на дзіркатай курасадні, на якую раптам абрынулася залева. Рэч у тым, што ты чуеш пра гістарычную неабходнасьць замачыць дзесяцігадовага чачэнскага хлопчыка, які з-за вугла страляе ў фэдэралаў з аўтамату Калашнікава. Хлопчыка — няхай сабе ён і застаўся старэйшым мужчынам у сям'і, бо астатніх ужо замачылі — трэба пусьціць у расход не з прычыны банальнае помсты за тых, каго журналіст П.Шарамет называе *"нашими ребятами"*, а — дзеля пашырэньня арэалу эўрапейскай культуры.

Ты ўдакладняеш, хто ж носьбіт гэтае культуры, і маскоўскі філёзаф урачыста й ляпідарна вымаўляе: *"Великая Россия"*.

Ты дыпляматычна цікавішся, ці трэба ягоныя словы разумець так, што Расея — частка Эўропы, і чуеш абураны адказ: маўляў, а што ж гэта такое, калі не фарпост Эўропы на мяжы азіяцкага сьвету, куды яны, нашыя расейскія братаны, нястомна, на танках, артылерыйскіх ляфэтах і самалётах-бамбавальніках валакуць заваёвы эўрапейскае цывілізацыі.

Маскоўскі філёзаф чамусьці мае сумнеў, што пераканаў цябе, і таму пагрозьліва перапытвае, а што ж такое Расея, па-твойму. Ты — чалавек абачлівы, і таму, з улікам таго, што братаноў (без уліку прафэсара Яшы) трое на аднаго, зьбіраеш у кулак усю сваю добрасуседзкую сымпатыю, высьпеленую за стагодзьдзі ціхамірнага суіснаваньня вашых народаў. Зважаючы на варункі, ты здольны пайсьці на тое, каб назваць Расею часткаю Эўропы, але твая гатоўнасьць да разумных кампрамісаў таксама мае свой арэал, і ты ляяльна адказваеш, што так, іхняя радзіма — частка Эўропы, а менавіта — ейная задніца.

*"Что ты сказал?"* — раве філёзаф Віктар. *"Вонючая задница Европы"*, — удакладняеш ты і талерантна сьціскаеш у руцэ бутэльку, трымаючы яе за рыльца. *"Совершенно верно"*, — нечакана прачнуўшыся, пацьвярджае пецярбуржац Саша, пяшчотна абдымаючы мокрага да ніткі Дзіму.

*"Как ты можешь, ты же писатель*, — абвяла кажа філёзаф. — *Еще и вонючая..."*

Ты міралюбна супакойваеш маскоўскага братана ў тым духу, што задніца — гэта жыцьцёва неабходны орган любога нармальнага арганізму, бо бяз задніцы чалавек ня можа існаваць гэтаксама, як і без галавы, а часам задніца, або, па-беларуску, срака, бывае нават больш актуальнай за галаву (да прыкладу, славуты вершнік без галавы, дзякуючы наяўнасьці сракі, выдатна трымаўся ў сядле, а калі б меў першы орган, але ня меў другога, Майн Рыд проста не напісаў бы свайго раману). Ну а што сьмярдзючая, дык на тое яна і срака. Такая ўжо ў яе функцыя, што нават у самой Афрадыты яна наўрад ці пахла амброзіяй.

Філёзаф даволі неспадзявана ўгамоўваецца і яшчэ болей неспадзявана паведамляе, што па маці ён — габрэй. Ты адкладаеш убок зброю інтэлігента — бутэльку і ўголас прыгадваеш радкі габрэйскага савецкага паэта Арона Вяргеліса:

*В твоей крови слиянье двух кровей,*
*Огонь ее от матери твоей...*

"Совершенно верно", — бадзёра пацьвярджае Саша.

У цябе яшчэ засталася пляшка паўсухога чырвоненькага, каб выпіць за перамогу сусьветнае жыдамасонскае змовы супроць Расеі. Але ты адчуваеш, што страшэнна стаміўся — быццам пражыў у "саюзнай дзяржаве" не адзін сёньняшні дзень, а цэлы год.

Табе прагнецца хутчэй дапасьці да твайго апартамэнту ў Ларнацы, побач з саборам сьвятога Лазара, дзе сьвечкі пахнуць нэктарам і пылком з матыльковых крылцаў, і выпіць сваю пляшачку з кім-небудзь, хто не пашырае арэалу эўрапейскае цывілізацыі, а тады — хуценька паспаць, каб заўтра падняцца разам з сонцам і прыйсьці на ціхі пляж, дзе пакуль няма расейскае папсы і расейскіх надпісаў і ты можаш супакоена паплаваць і, патрыятычна абстракаваны пільнай раньшняю мэдузаю, выцягнуцца на сонейку, ленавата назіраючы за шматлікімі кіпрыйскімі катамі, якія традыцыйна ня ловяць мышэй, бо прывезеныя сюды дзеля паляваньня на зьмеяў, і гэтаксама ленавата пагадзіцца з Сомэрсэтам Моэмам, што поўдзень сапраўды абвастрае пачуцьці, але прытупляе розум.

Прывабленая кірыліцай на вокладцы твайго часопісу, да цябе падрулюе пляжная парачка з пытаньнем, ці не гаворыш ты па-расейску, і ты, ва ўладзе тае самае тутэйшае ленаватасьці розуму, адкажаш ім не *"идите вы на..."*, а *"I don't understand"* і, не адыходзячы ад мора, прапусьціш праз асьмяглы арганізм шклянку чырвоненькага, што ў цябе з сабой, і ўзгадаеш Зянона, але не таго, а іншага, які нарадзіўся тут, у антычным Кітыёне, што стаяў на месцы Ларнакі, і які, пасталеўшы, заснаваў афінскую школу стоікаў.

Потым, паводле нейкай няўлоўнай асацыяцыі, на памяць усплыве аднаклясьнік, які цяпер працуе ў адміністрацыі прэзыдэнта, а калісьці, у школе, выславіўся тым, што быў перакананы, нібыта Атэла — істота ніякага роду. Ты падумаеш, што гэтае Атэла задушыла нявінную Дэздэману зусім блізка ад твайго пляжнага лежака, у Фамагусьце, куды варта было б зьездзіць, каб не дэмаркацыйная лінія, якая пасьля вайны 1974 году адрэзала Фамагусту ад грэцкае часткі востраву, ператварыўшы колішнюю рэзыдэнцыю вэнэцыянскіх намесьнікаў у мёртвы горад...

Пасьля чарговае шклянкі чырвоненькага порсткай жужэлкаю сьлізгане прыемная думка, што дэмаркацыйная лінія — не заўсёды зло, і на гэтай дыялектычнай высокае ты шчасьліва засьнеш пад ласкавым кастрычніцкім сонцам, паклаўшы пад галаву сьвежы нумар *"Arche"* і апошні нумар ужо амаль дабітай "Крыніцы".

Табе будзе сьніцца твая далёкая радзіма, яе даверлівыя блакітныя вочы і крамяныя белыя попкі, дэмаркацыйная лінія пад Шкловам, джыпы зь вялікімі літарамі *UN* на менскіх вуліцах і помнік першаму прэзыдэнту, пры якім будзе стаяць ганаровая варта зь дзяўчынак у паркалёвых купальніках і надзьмутых хлопчыкаў у чорных сямейных трусах. Надпіс на манумэнце будзе зроблены лацінкаю, і ты будзеш ускладаць да яго кветкі, пакутліва намагаючыся разгледзець дату пасьля працяжніку.

**Лістапад, 2000**

# Босьнія і Герцагавіна,

## або Эўропа вялікіх фараонаў

Наталка Бабіна

“Вядома, я тлустая. Якой яшчэ маю быць, нарадзіўшы пяцёра дзяцей? Ясна, ня Твігі! І няма чаго мне пра гэта лішні раз нагадваць, — раздражнёна думала я, чапляючы на нос сонечныя акуляры і адгортваючы старонкі. — Яшчэ б прапанаваў на дыету сесьці! Не прапануе, ведае, што ня сяду”.

Раптоўна, як і завялася, я супакоілася. Пятнаццаць гадоў разам! Гэта супакойвае, нават калі муж раніцай скажа, што ў цябе тлустая сьпіна. Зараз мужава галава (ня тлустая) віднелася недзе ля далягляду, амаль там, дзе зьліваліся Адрыятычнае мора і неба. Пяцёра дзяцей зь віскатам гулялі ў бэрыка — марскога, наколькі я разумела. А я чытала.

“У цары Эгіпту, — звычна перакладала я францускія словы, адразу выстройваючы іх паводле правілаў беларускай мовы, — боская і чалавечая сутнасьці зьліліся ў непаўторную асабістасьць, у вобраз цывілізацыі, якая праіснавала некалькі тысячагодзьдзяў. Давайце ж выправімся ў вандроўку і адкрыем іх сьвет. Давайце ўшануем памяць фараонаў Эгіпту і адкрыем для сябе адну з найвялікшых старажытных цывілізацыяў, якая прадстане перад нашым зачараваным позіркам”.

Я зьняла акуляры і пацёрла пераносьсе. Нешта перашкаджала засяродзіцца. Няўжо гэтая недарэчная, але абсалютна не злаўмысная заўвага мужа?

Мы ведалі адзін аднаго са школы. Аднойчы ў трэцяй клясе я сьпісала ў яго раўнаньне на кантрольнай — мабыць, з гэтага моманту трэба адлічваць пачатак нашага сяброўства. Сяброўства дзіўнага, якое з плянэтарыю ў парку Горкага і коўзанкі ля магазыну “Электроніка”, гэтых неабходных атрыбутаў менскага маленства, плаўна перацякло ў бесталковае юнацтва, што разьвяло нас у розныя бакі, каб потым зноў зьвесці ў час, цяжкі для абаіх. Пажаніліся мы, супраць волі яго і маіх бацькоў, калі я чакала дзіця — і не ад яго. Ён жа на тую пару меў непрыемнасьці — настолькі ж натуральныя для маладога мужчыны, як цяжарнасьць натуральная для маладой жанчыны. Мая фраза гучыць таямніча і двухсэнсоўна, а ўсё было вельмі проста: яго даставаў КГБ. Каго ў тыя часы не даставаў КГБ! Сакурсьнік Зьмітра, хлопец, які яго залажыў, якраз і быў бацькам майго маючага нарадзіцца дзіцяці.

У нас са Зьмітром не было прыціркі. Абцёрліся мы адзін аб аднаго раней, за сем гадоў вучобы ў школе. З таго моманту, калі сталі жыць разам, скончылася бесталковае юнацтва.

Пад гарачую руку я, бывала, папракала Зьмітра рознымі ўяўнымі і рэальнымі яго грахамі. Ён ніколі ня тыцнуў мне маім першынцам і тым, што было да шлюбу. З таго самага часу, калі на сьвет зьявілася Югася, ён ставіўся да яе так пяшчотна, як толькі можа бацька ставіцца да вельмі каханага дзіцяці.

Да трэцяга дзіцяці я працавала. Адмыслова наймала няньку, а сама пісала бугальтарскія праграмы на замовы розных фірмаў. Круцілася, як трэска ў палонцы. І прыкладна з тым самым вынікам. Аднойчы ў адной паўлегальнай фірмачцы мне заказалі распрацоўку поўнага пакету праграмнага забесьпячэньня — вельмі тэрмінова і вельмі дорага. Калі я прынесла сваю працу, усталявала і навучыла пэрсанал карыстацца, дырэктар, ясна гледзячы мне ў вочы, сказаў, што сытуацыя памянялася і ён ня можа заплаціць мне так, як мы дамаўляліся. А можа — у дзесяць разоў меней.

Дома, адчыніўшы дзьверы, я пабачыла: нянька на кухні палуднуе разам са сваёй дачкой, якая прыходзіла з маткай з нагоды канікулаў, а мае падшыванцы, самі сабою, займаліся ў сваім пакоі і выбеглі мне насустрач, перапэцканыя шмінкай.


ЛІЯ КІЙКО

Плюнуўшы і расьцёршы, я нагнала няньку разам зь яе дачкой, выкінула ў сьметнік звараны ёю палудзень, выпіла кавы, зьела хлеба з маслам і адмыла дзяцей ад касмэтыкі. Заплаціла аднаму хлапцу з той фірмачкі, каб ён запароў усё, што я настварала, у гаманцы засталося тры зубры, два зайцы і вавёрка, а таксама прасьцірадлы featuring рознакаляровых візытовак...

Маё рашэньне пакінуць працу было для Зьмітра штуршком, стрэлам стартавага пісталета, дазволам на выезд. Ён пакінуў завод і заняўся продажам вазонаў. Аказалася, з продажу хатніх кветак у Беларусі можна жыць.

Даволі хутка мы купілі дом у Сельгаспасёлку, і тут, у нетрах старога Менску, сярод вішнёвых садоў, сабак, шынамантажоў і бэнзакалёнак, лазьняў, вербаў, катэджаў, што выдаюць на баптысцкія малельныя дамы, каля рэзыдэнцыі індыйскага пасла, уніяцкай парафіі сьвятога Язэпа і гуртовага базару сланечнікавых семак, так хутка, як гэта дазволіла прырода, зьявіліся на сьвет яшчэ двое нашых дзяцей.

Чым было маё жыцьцё ў гэтым віры?

Не квактаньнем над седалам, гэта напэўна. Калі аднойчы, накрываючы на стол, паўжартам я сказала: “Ды я ж ідэальная жанчына, у якой вячэра заўсёды гатовая а палове на сёмую!” — Зьміцер адазваўся цалкам сур’ёзна: “Няма жанчыны, больш далёкай ад ідэалу, чым ты!” Я думаю, ён, як заўжды, меў рацыю.

Не чарадой аднастайных хатніх справаў.

Не піцьцём бясконцай гарбаты за бясконцымі плёткамі зь бясконцымі сяброўкамі — у мяне проста няма сяброрак.

Тады чым?

Які таямнічы сэнс асьвячае ўсё гэта: бруднае месіва на лістападаўскіх вуліцах, “Ікарусы” з партрэтамі Пугачовай у салёнах, задачкі за першую-другую-трэцюю клясы, банальную кулінарыю на Крапоткіна, цыгарэту штовечар, якую з выхаваўчых меркаваньняў я дазваляю сабе толькі тады, калі ўся мая пяцёрка моцна сьпіць? Што я кладу дзецям у ранцы разам з канапкамі для перакусу, наліваю ў кубкі разам з ранішняй какаваю, запускаю ў сэрца машыны разам з запальнай сумесьсю, у той час, калі фары сьвецяць праз ноч, а дзень настае толькі намінальна?

Які няўлоўны дух, які Бог хаваецца сярод натоўпаў тлустых жанчынаў, у кіёсках “Белсаюздруку”, у прасьмярдзелых залях аэробікі, у пыле над сцэнай Купалаўскага? Яму ахвяра — кантэйнэры рытуальных яек на паліцах крамаў пад Новы год. Але мне, жанчыне з тлустай сьпінай, ён ня дасьць сябе пабачыць, аж пакуль не зацягнуся тлушчам з усіх бакоў.

— Мама!

Я падняла вочы і адрухова зажмурылася — Тараска, гуляючы, сыпануў мне жменю пяску ў вочы. Як ні старалася, я не магла іх расплюшчыць. Да таго часу, як падбег выкліканы з мора тата, я ўжо плакала крывавымі (літаральна) сьлязьмі, а двое малодшых, нягледзячы на мае ўгаворы, вылі.

Муж адвёз мяне ў акруговую больніцу, дзе з-пад павек дасталі некалькі малюпасенькіх аскепачкаў шкла, што аказаліся сярод пясчынак. Доктар настояў, каб я хаця б на суткі засталася ў больніцы. Я ня вельмі і працівілася. За дзяцей я не хвалявалася: у гатэлі будзе добры догляд.

На вочы мне налажылі павязкі-кулiскі. Неўзабаве ў маю палату прывезьлі яшчэ нейкую жанчыну. Мэдсястра сказала, што гэта пажылая пані, якой выдалілі катаракту, і што яна пэўны час прабудзе разам са мной.

Калі ў вас ёсьць грошы, дык апэрацыя на катаракту ў харвацкай больніцы адбываецца так, што праз гадзіну вы можаце ісьці дадому. Калі з грашыма горай, вам прыйдзецца нейкі час правесьці ў больніцы. Але і ў гэтым выпадку ня трэба ляжаць суткі нерухома, як гэта патрабуецца ў нас.

Лежачы ў сваіх павязках, як у шорах, я чула, як мая суседка варушыцца, уздыхае, нарэшце пытаецца:

— А хто тут?

Ня ведаючы, што адказаць, я маўчала.

— А хто тут, халера ясная?

Я засьмяялася і падняла адну кулiску, каб пабачыць сваю суседку.

І яна спрабавала разгледзець мяне старэчым выцьвілым вокам. Была яна вельмі ў гадах, худая, чыстая, смуглявая, як усе тут, у бальнічным сінім халаце.

— Вам нельга падымаць павязку! — запратэставала я. — Вы ж толькі па апэрацыі!

— Гэта ня тое вока, здаровае, — адказала яна. — Ты з чужога краю?

— Але.

Старая, апусьціўшы павязку на вока, абмацвала коўдру вакол сябе, парэнчы, тумбачку, сьцяну. Намацаўшы радыё, уключыла яго:

*О, Мариана!*
*Сладко спишь ты, Мариана!*
*Мне жаль будить тебя,*
*Я стану ждать...*

Салодкія словы расейскай песьні, салодкі голас з дынаміку. Мабыць, прывыкла, каб радыё было заўсёды ўключанае.

— Гэтую песьню сьпявалі жаўнеры, калі стаялі ў нас у вёсцы па вайне, — сказала старая. — Антэ прадаваў ім авечкі.

— Па якой вайне? — перапытала я.

— Па тамтой, зь немцамі, — адказала старая. — У жаўнераў можна было браць лупіны — прыходзь, абірай бульбу ў такія вялікія чыгуны, а лушпайкі можаш забіраць сабе. Пакуль дзеці ў мяне дзяржава не забрала ў інтэрнат, я іх тымі лупінамі і карміла. Добра, што іх забралі — там і апраналі, і вучылі. Так і выгадаваліся яны не каля мяне.

Сашко, апошні, рос ужо са мной. Ён нарадзіўся позна, старэйшыя былі ўжо па школе, я думала, у мяне скончылася на сарочцы, але ж на табе, маеш — пуза расце! Кінулася да дактароў — рабеце аборт, а яны кажуць — позна, дзіцё ўжо вялікае. Чаго я ні рабіла: і з вышыні скакала, аж сэрца заходзілася, і цяжкое варочала, і падпярэзвалася моцна — анічога не дапамагло. От і нарадзіла. Хаты тады не было, мы ў аўчарні жылі. Сашко вельмі прыгожанькі быў. Як там мая братавая казала? *“Правільныя рысы твару, правільныя рысы твару!”*

— Чаму ж вы жылі ў аўчарні?

— А раскідалі нашу хату. Мяжу тады цягнулі. Сказалі, ня можна, каб на мяжы жыць, вось і расьцягнулі. Мы тады ня тут жылі, а на поўначы, далёка, у гарах каля возера Бледна. Мая зямля, мой пасаг, засталася ў Герцагавіне, а аўчарня аказалася ў Харватыі. Праўда, за зямлю нам трошкі сплацілі. Дык за тыя грошы потым мала што не забілі!

Доктар, спрактыкаваны да аўтаматызму, рухаючыся настолькі ж хутка, наколькі бясшумна, зьявіўся ў палаце, каб закапаць мне вочы і зьняць павязкі, а старой зрабіць ін’екцыю пад павека, і прапаў. Старая нават не зразумела, што адбылося, толькі твар яе раптам стаў разгубленым, і яна, перарваўшыся на паўслове, спыталася:

— А што гэта было?

— Гэта доктар прыходзіў, зрабіў вам... — я не магла ўспомніць, як будзе па-харвацку гэтае слова і сказала па-польску — *zastrzyk*.

— Укол? — здагадалася старая. — Не, ня цяжкая апэрацыя, магу ўсім казаць, каб толькі Бог даў дапамагло.

Яна памаўчала, але ўзбуджанасьць з-за нязвыклых абставін ды ад прыроды энэргічная натура патрабавалі калі ня дзеяньняў, дык хоць словаў. Старая відавочна была з тых, хто гаворыць тады, калі хоча, і пра тое, аб чым думае.

— Я, мілая пані, у жыцьцы не ляжала ў больніцах, гэта ўперша. І дзеці нарадзіла бяз больніц... Па Сашку месца доўга не выходзіла, Антэ выклікаў доктара. Той зрабіў мне нейкі ўкол, сеў у куточку і паглядае — то на руку на гадзіньнік, то на мяне, а то на авечкі.

Такая калатнеча тады была! Раз узімку трэ было ехаць па дровы праз мяжу, у Босьнію, бо там быў лес. Сашку, мусіць, тады гады з тры было. Пасадзіла яго на запечак, каб цяплей — а мы ў аўчарні печачку злажылі. Дала гароху ды дзьве скрыначкі, каб перасыпаў, і паехалі. А мароз! Еду, а як шпары зойдуць у пазногці — саскочу з санкаў ды бягу, каб сагрэцца. А душа не на месцы — як там малы ўдома сам, ці ня ўлез куды, ці не замерз — бо зімой шэрань са сьценаў ня сходзіла. А Антэ і зьлезці ня мог — толькі пакіхікваў ды горбіўся на санках. Астма ў яго была, усё жыцьцё хварэў, праз тое і да Ціта яго не забралі...

— А чаму вы па дровы езьдзілі зімой? Чаму ня летам?

— Дык за ракою лес быў, летам броду не было. Зімой, як лёд стане, то ўжо і па дровы ўсе едуць. А лес нельга высякаць. Дык скрадаешся і аглядаешся, каб лясьнік дзе ня выйшаў, пянькі сьвежыя сьнегам прысыпаеш, каб не сьвяцілі.

І вось той раз я ўвалілася ў палонку. Бягу, за аглоблю ўхапіўшыся, ды плачу, бо холадна. Ажно выскокваюць з-за купы на дарогу гранічары. Я думала, яны будуць нас ганіць, што праз мяжу едзем, а яны адразу да Антэ сігануліся шукаць грошы — зналі, што нам сплацілі за зямлю, думалі, што грошы з сабой возім, бо ў аўчарні схаваць няма дзе. Адзін кажа: давай грошы, а то зараз застрэлю, скажу, што ўцякаў.

А я стаю думаю: хай бы, і праўда, яго застрэлілі, яму ўсё адно не жыцьцё зь яго экзэмаю ды астмаю, і мне ад яго ніякай дапамогі. Толькі кармі, а працаваць ня можа. Я і дровы рубаю, і за плугам сама хаджу. Антэ ж сваё цьвердзіць: няма грошай, аддалі за пазыкі. А той гранічар кажа: ну, дык маліся, Антэ, бо зараз табе канец будзе — і стрэльбу падводзіць.

Але, мусіць, Бог яго стрымаў. Апусьціў ён стрэльбу, рукой толькі махнуў. А другі ўжо каня выпрагае — такі закон быў, што калі праз мяжу канём едзеш ды зловяць, дык каня забіраюць.

Я як бухну на калені, і ў лямант: прашу, малю напрамілы Бог, каб толькі каня пакінулі. Бо як без каня?! Вясна прыйдзе — як безь яго?! Як дровы без каня дацягнуць? А тапіць жа няма чым, замерзьнем, дзіця замерзьне!

Але хіба іх умоліш? Той, што стрэльбай палохаў, кажа: бачыш, Антэ, якая ў цябе баба, за цябе не прасіла, а за каня просіць. І пайшлі сабе, і каня нашага павялі.

А ў Антэ з таго ўсяго прыступ стаў. Паваліўся ён, бедны, на дровы і ротам дух ловіць, аж сьсінеў. Што рабіць? Узялася я за аглоблі, дый пацягнула і сані, і дровы, і Антэ. Добра, што трошкі з гары было. Цягну воз, а адзеньне на мне зьвініць, спадніца па нагах б’е — усё чыста лёдам пакрылася.

Дабраліся дадому — я перш-наперш да акенца, паглядзець, ці хоць з Сашком усё добра. Бачу, сядзіць на запечку, іграецца. Апусьцілася я на прызбу, адчуваю, ня ўстану. Але ж трэба — Антэ ўсярэдзіну завесьці, затапіць, пераапрануцца.

Цягну Антэ, толькі дзьверы прычыніла, а Сашко з радасьці да мяне як кінецца:

— Мацінка, мацінка!

Які нячысты дух мяне пад руку вадзіў! Пхнула я яго ад сябе, каб пад нагамі не матаўся, не перашкаджаў бацьку весьці. Ён упаў, ды, мусіць, пашкодзіў сабе што. З таго дня ў яго стаў расьці горбік.

...Паслухай, ты можаш завіць мне хустку, во тут яна, пад падушкаю?

Я знайшла лёгкую жоўценькую хусьціну і завіла старую, завязаўшы канцы пад падбародзьдзем. Сьляпая, у павязках на вачах, яна ляжала на сьпіне, выцягнуўшы ўздоўж цела худыя рукі зь вялікімі далонямі.

Увайшла санітарка, пажылая і спакойная, і спыталася ў старой, ці не патрэбная пані вутка.

— Давай!

Трошкі пасьля санітарка прынесла старой вячэру. Старая ела з апэтытам, якога я ад яе не чакала, а кавалак хлеба працягнула санітарцы:

— Рэшту аднясі назад, мо каму не хапіла, дык дасі.

Адразу пасьля вячэры, перахрысьціўшыся і памаліўшыся, старая заснула.

Хутка, як заўжды на поўдні, сьцямнела. Я глядзела ў вакно сьвежапралечанымі вачыма. Унізе, пад гарой, блішчэла пад месяцам мора — чорная прорва, поўная рыбаў і пачвар. Блішчэла і гара: шматлікія агеньчыкі ліхтароў і вокан, цуг аўтамабільных фараў на дарозе. “*О, Мариана*, — круцілася ў галаве. — *Сладко спишь ты, Мариана! Мне жаль будить тебя, я стану ждать...*”

# Новая кватэра Казімера

Лявон Вольскі

Гэта была зусім ціхая, нават для нашага няшумнага гораду, вулка. Паблізу не было заводаў, фабрык, тут ня езьдзілі тралейбусы, якія скуголяць, аўтобусы, якія дымяць, ды трамваі, якія ў нашым горадзе амаль усе пэнсійнага веку, таму, калі едуць, скардзяцца на жыцьцё, квохчуць, корхаюць, перхаюць — як большасьць пэнсіянэраў. Адно што праедзе якаясь міліцыянцкая машына раз у паўгадзіны (дый тое — бо побач аддзяленьне міліцыі). А звычайныя кіроўцы гэтай вуліцы папросту ня ведалі — неяк яна ўдала схавалася, быццам бы ў самым цэнтры гораду й быццам бы ў іншым вымярэньні.

Дамы тут старыя, двухпавярховыя. Дрэвы таксама старыя, значна вышэйшыя за дамы.

Вось я й кажу: гэткая вуліца — сапраўдная знаходка ў наш час. Таму, калі Казімер атрымаў тут кватэру, усе ягоныя сябры вельмі ўзрадаваліся. Узрадаваліся за Казімера, а яшчэ таму, што можна будзе зайсьці ў госьці ў гэтую старую кватэру ў старым доме на старой ціхай вуліцы, якую мала хто ведае, якой не знайсьці на мапе гораду сярод праспэктаў, бульвараў, паркаў, сквэраў ды вялікіх, забудаваных 16-павярховымі дамамі, вуліцаў імя герояў айчыннай вайны.

Дый Казімер быў вельмі задаволены. Ён быў задаволены ды ўдзячны, калі сябры дапамагалі яму рабіць рамонт — кожнага дня яны разам з Казімерам зьдзіралі старыя шпалеры, клеілі новыя, тынкавалі сьцены, шпаклявалі й фарбавалі падлогу...

І вось аднойчы рамонт скончыўся. І ўсе ўбачылі новую кватэру Казімера — утульную, сьветлую, цёплую... За вокнамі — лета. Шапацяць дрэвы, гуляюць у клясыкі дзяўчаткі, сядзяць на лаўках старыя. Карцінка нібыта ня з гэтага часу. Адно толькі парушаюць гармонію міліцыянцкія машыны, якія курсуюць з пастарунку ды ў пастарунак.

— Я мяркую, трэба адзначыць гэтую справу, — заўважыў Казімер, і сябры ажыўлена пагадзіліся.

Яны схадзілі ў краму й прынесьлі гарэлку, кілбасу, сала, хлеб, агуркі, кетчуп, маянэз. І пачалі адзначаць сьвята новае кватэры Казімера.

— Я хачу выпіць, — сказаў Алесь, — за гэты дом, за гэты раён, за гэтую кватэру. Я хачу выпіць за тое, каб неўзабаве ўсе мы мелі гэткія кватэры, бо ўсе мы падобныя адно да аднаго, у нас адны памкненьні, падобныя жыцьцёвыя мэты й прынцыпы. Вось за што я хачу выпіць.

І выпіў. І ўсе выпілі.

І гэтак яны доўга выпівалі за ўсё добрае ў гэтым жыцьці. А потым працягвалі выпіваць ужо бяз тостаў, але з доўгімі шчырымі размовамі.

— Што нас трымае ў гэтым жыцьці? — казаў Алесю Зьміцер. — Тое, што мы разам. Вось бачыш, сёньня трэ было дапамагчы Казімеру, — дапамаглі. А калі заўтра табе спатрэбіцца дапамога, зьбяромся й дапаможам. Бо вось такія мы людзі — ня можам, каб не дапамагаць адно аднаму.

— А як жа яшчэ жыць? — адказваў Зьміцер. — Паасобку мы згубімся ў гэтым жыцьці, у гэтым варожым нам горадзе. Сярод гэтых брутальных выпівохаў, якія шторанак сустракаюцца ля піўнога шапіка й нават зімою ў 20-градусны мароз п'юць з былых у карыстаньні слоікаў разьведзенае піва. Сярод гэтых магазынных прадаўшчыцаў ды прадаўцоў, якія пачуваюцца гаспадарамі гораду, а ты для іх — дробная перашкода на шляху да ўласнага ўзбагачэньня. Сярод гэтых паголеных маладзёнаў, прасякнутых турэмнай рамантыкай. Сярод гэтых паўсюдных блатных песень. Сярод... Ды што казаць... Ты сам усё ведаеш.

І яны выпілі.

А Хрысьціна слухала ўсё гэта, сама час ад часу ўплішчвала важкае слова, выпівала ня меней ды ня болей за ўсіх і краем вока назірала за Францішкам.

А Францішак быў непаўторны — ён жартаваў, дэклямаваў вершы, размаўляў на розныя галасы, распавядаў показкі — быў цэнтрам увагі для тых, хто не захапіўся, як Зьміцер ды Алесь, шчырымі сяброўскімі размовамі.

І толькі Віталь вылучаўся з агульнае вясёлае кампаніі. Ён браў удзел у агульных размовах, спрабаваў жартаваць, падтрымліваць гутарку. І, тым ня меней, вылучаўся. Ён ня піў. Ён кінуў піць з год таму, калі пачаў рэгулярна наведваць царкву.

— А я прапаную выпіць за тое, — гучна пачаў Францішак, — што ў гэтым брутальным горадзе яшчэ засталіся людзі, зь якімі можна пагаварыць. Людзі, якія адчуваюць адно аднаго на ўзроўні падсьвядомасьці, якім ніколі ня трэба нічога тлумачыць. Для гэтае зямлі й для цяперашняга часу гэта настолькі рэдкая зьява, што я папросту шчасьлівы... Кажу абсалютна шчыра.

І ўсе выпілі.



ЛІЯ КІЙКО

Хрысьціна паглядзела краем вока на прыгожую Францішкаву постаць, што ўзвышалася над сталом, і выпіла за Францішка. І — крышачку, адсоткаў 20 — за сябе.

Адзначалі заканчэньне рамонту доўга. Гэта былі сур'ёзныя людзі. Напачатку яны сур'ёзна папрацавалі, потым сур'ёзна — не адзін дзень — адзначалі. Усё як мае быць.

Але аднаго ранку ўсе прачнуліся й зразумелі: годзе сьвяткаваць. На дварэ — будзённы дзень, пахне восеньню. У адчыненую фортку залятае халаднаваты верасьнёўскі ветрык і пажоўклыя зморшчаныя лісты.

— Здаецца, яшчэ ўчора было лета, — заўважыў Алесь.

— Здаецца... — нібы рэха, адгукнуўся Францішак. Ён не жартаваў, не дэклямаваў вершаў, не размаўляў на розныя галасы (Францішак меў талент парадыста й часта дэманстраваў яго ў вясёлай кампаніі). Ён пачуваўся кепскавата й хацеў дадому.

— Вось і скончыліся сьвяты, — канстатавала Хрысьціна. — Трэба вяртацца ў звыклыя шэрыя будні. У наш няўтульны горад.

Яны павольна, панура сабраліся. Казімер вырашыў правесьці сяброў да прыпынку.

Яны выйшлі на ганак, зайшлі за рог дому, пашыбавалі па ціхай жоўтай восеньскай вуліцы й раптам аслупянелі.

На тым месцы, дзе яшчэ нядаўна, прынамсі да пачатку сьвяткаваньня, туліўся сярод высокіх дрэваў міліцыянцкі пастарунак, цяпер узьнёсься да самых нябёсаў велізарны сьпічасты будынак.

— Што гэта? — разгублена пераводзіла вочы з твару на твар сваіх сяброў Хрысьціна.

— А я ўсё думаю, чаго гэта мянтоўскія машыны перасталі езьдзіць па вуліцы, — недарэчы заўважыў Зьміцер.

Болей за ўсё будынак нагадваў нейкі храм. Не каталіцкі, не праваслаўны. Нейкі храм невядомае рэлігіі, пабудаваны сьмела й сучасна. Да ўваходу вяла высокая лесьвіца. Са шматлікіх, невялікіх памерамі вокнаў праменіла сьвятло. Каб убачыць сьпічастую вяршыню храму, трэба было адкінуць галаву так, як мы адкідаем яе, калі глядзім на зорнае неба.

— Хлопцы-дзеўкі, тут нешта ня тое, — занепакоена сказаў Віталь. За такі кароткі тэрмін немажліва пабудаваць гэткую гаргару. Хадземце адсюль хутчэй, я адчуваю небясьпеку.

— Пачакайце, а што гэта за пабудова? Якое ейнае прызначэньне? — зацікаўлена запытаўся Алесь.

— Падобна да нейкага храму, — азваўся Францішак.

— Хадземце адсюль хутчэй, — цьвердзіў Віталь. — Які гэта храм, крыжу няма, на вежы нейкі незразумелы сымбаль. Я вам кажу — туды заходзіць небясьпечна!

Казімер, Алесь, Зьміцер, Францішак ды Хрысьціна пацягнуліся да ўваходу ў храм. Віталь ішоў апошні ды ўвесь час гаварыў пра небясьпеку, пра тое, што варта спачатку даведацца пра гэты будынак, што гэта, наагул, такое, а тады ўжо рабіць гэткія экскурсіі, і ўсё адно гэта вельмі небясьпечна, невядома, як паўзьдзейнічае гэты невядомы культ на псыхіку...

Кампанія зайшла ў шырокую браму й апынулася ў прасторным сьветлым памяшканьні.

Тут нікога не было. Усё выдавала на касьцёл, толькі бяз лаваў, абразоў, крыжоў...

У цэнтры залі знаходзілася зноў-ткі лесьвіца. Яна вяла кудысьці ўгару.

— Хадзем, — сказаў Алесь і пачаў падымацца. Усе пакрочылі за ім. Віталь змоўк.

Ён глядзеў на парэнчы — тая паверхня, па якой звычайна вядзецца рукою, складалася з маленькіх карцінак-выявак. Кожная выяўка штосьці абазначала. Тут былі абсалютна розныя карцінкі — маленькія партрэцікі, краявіды, сымбалі... Лесьвіца цягнулася доўга, і, здавалася, выявам не было канца — партрэт пахмурнага сярэднявечнага чалавека ў жабо, нейкая абстрактная кубістычная карцінка, потым — падазроны (відаць, кабалістычны!) сымбаль, і гэтак далей і далей, бясконца. Віталь хацеў зьвярнуць увагу сяброў на гэтыя дзіўныя парэнчы, але ўсе маўчалі, і яму раптам таксама перахацелася размаўляць. Яны ўздымаліся вышэй і вышэй і раптам апынуліся на шырокай круглай пляцоўцы. Тут было вельмі сьветла. Можна было паглядзець з вышыні на горад — жоўты сумны восеньскі горад, маленькія дамкі, дахі, вежкі, машынкі, што паўзуць па вузкіх вулках.

Калі гэта яны пасьпелі так высока падняцца?

На гэтым паверсе не было людзей — толькі прыгожыя сьцены, зь якіх нібыта прамянілася сьвятло, і дзьверы ў гэтых сьценах.

"Як у кампутарнай гульні-стралялцы", — падумаў Зьміцер.

Ніхто не пасьпеў нічога сказаць. Алесь адчыніў дзьверы й зайшоў унутр. Дзьверы зачыніліся.

Яны разгублена стаялі пасярод круглае залі. Віталь мусіў закрычэць, папярэдзіць, засьцерагчы... Але нейкі дзіўны спакой ахінуў яго. Размаўляць не хацелася.

Яны стаялі й маўчалі. Чакалі, пакуль выйдзе Алесь.

Алесь лацьвей прыстасаваў аўтамат. Цэль — чалавечая постаць у камуфляжным адзеньні — супала з мушкай. Алесь стрэліў. Два разы кароткімі чэргамі. Постаць упала.

— Зусім някепска, малады чалавек, — пахваліў гаспадар. — Хочаце яшчэ пастраляць?

— Натуральна, хачу. Я наагул вельмі люблю страляць. І ўмею. Я, калі служыў у войску, быў адным зь лепшых. У сэнсе страляніны. Падцягваўся кепска, а страляў лепей за ўсіх у роце. Я нават за гэта нейкія граматы маю, толькі ня памятаю, куды падзеў.

На полі ўзьнялася новая мішэнь — чалавек на матацыкле. Мішэнь павольна набліжалася. Алесь заваліў яе з другога стрэлу.

— Вы сапраўдны майстар, — зьдзіўлена вымавіў гаспадар ціру.

Алесь усьміхнуўся й перазарадзіў аўтамат.

Побач нешта выбухнула, Алеся абсыпала каваламі зямлі й дробнымі каменьчыкамі. Ён паглядзеў угару. У небе завіснуў чорны варожы самалёт. Алесь прыцэліўся й стрэліў. Выпусьціў некалькі доўгіх чэргаў. Самалёт задыміўся й грымнуўся вобзем за лесам. Пападалі сьсечаныя гарачымі аскепкамі дрэвы.

Алесь азірнуўся. Гаспадара ціру нідзе не было. Затое проста на яго па полі пёр вялізны шэры танк. Грымнуў стрэл. Снарад выбухнуў непадалёк ад Алеся.

"Гэ-э, я гляджу, пачынаецца нешта сур'ёзнае", — падумаў Алесь. Ён вырашыў ня лезьці з аўтаматам на танк, няма сэнсу. Азірнуўся. Ззаду — 300 м — ручай. Проста за ім — бярозавы гай. Дабегчы да гаю — значыцца, уратавацца. "Дабягу", — падумаў Алесь.

Танкіст выпусьціў некалькі кулямётных чэргаў. Не патрапіў.

"Мазіла", — падумаў Алесь ды пабег.

Кароткімі перабежкамі — пагорак, хмызы, ляжаць! Выбух! Паскуда... Не зачапіла. Хмызы... самотны клён... падай! Чарга. Зноўку не патрапіў, мазіла.

Вось і гаёк. Можна падняцца. Мільгаюць дрэвы. Спыніся. Адпачні. Надыходзіць вечар. Калі будзе цёмна, трэба схадзіць у бліжэйшую вёску па правіянт ды запытацца, ці далёка нашыя.

— Пайду, пагляджу, што зь ім, — без інтанацыі, неяк манатонна вымавіў Францішак ды адчыніў дзьверы.

— Я з табою, — пасьпешліва сказала Хрысьціна.

Дзьверы мякка, бязгучна зачыніліся.

Яны стаялі на зялёным пагорку. Перад імі — дзіўнае прыгажосьці краявід — пагоркі, азёры, пагоркі, усё квітнее, рознакаляровыя кветкі сярод травы — нібыта мазаіка. Пяюць птушкі. Лётаюць вялікія вясёлкавыя мятлікі.

— Я ведаю, як называецца гэты мятлік, — раптам сказаў Францішак. — Ён называецца "махаон". Але ў нас ён не жыве. Ня той клімат.

— Значыцца, мы ня ў нас, — зь ніякаватай усьмешкай вымавіла Хрысьціна.

— Глядзі, вунь замак! — выцягнуў руку Францішак.

На вяршыні аднаго з пагоркаў сярод старых велізарных дубоў узвышаліся чырвоныя замкавыя муры.

— Пойдзем туды? — усё яшчэ няўпэўнена запытала Хрысьціна.

— Пойдзем. Спачатку пойдзем туды, потым пойдзем яшчэ недзе. Будзем хадзіць па гэтай краіне, пакуль не надакучыць. А нам жа наўрад ці надакучыць, праўда?

— Мне ніколі не надакучыць быць з табою разам, — ціха вымавіла Хрысьціна.

— І мне з табою вельмі добра, — прызнаўся Францішак. — У гэтым часе, у гэтай краіне. Болей нічога й нікога ня трэба. Я, ты, мятлікі, птушкі, кветкі, дарога сярод пагоркаў...

— А мне раней здавалася, што ты не зьвяртаеш на мяне ўвагі.

— На тое, што было раней, варта забыцца. У гэтае "раней" мы ўжо ня вернемся.

— Так, мы, напэўна, тут сустрэнем тое, пра што раней ня мелі ўяўленьня. Сустрэнем небясьпеку, сустрэнем прыгоды, сустрэнем радасьць, смутак, боль і асалоду...

— І ўсё гэта мы сустрэнем разам — я й ты. Увесь гэты сьвет створаны для нас, хіба ты не зразумела? То хадзем у гэты сьвет, ён нас чакае.

І яны згубіліся сярод бясконцых стракатых пагоркаў.

Зьміцер нічога не сказаў. Ён папросту адчыніў дзьверы й ступіў насустрач невядомасьці. Віталь хацеў прыпыніць яго, пра нешта папярэдзіць... Але ягоныя рэакцыі прыкра запаволіліся: пакуль ён зьбіраўся з думкамі, шукаў правільную, пераканаўчую пабудову фразы, дзьверы за Зьмітром ужо замкнуліся.

— Блін, Бруклін, — вымавіў Зьміцер.

Машына мякка рушыла па гладкім асфальце. Быў восеньскі вечар, горад стракацеў рэклямнымі агнямі, весяліўся, піў кока-колу, тэкілу й віскі, жаваў жуйку, нюхаў какаін.

Зьміцер кепска ведаў дарогу. Праз хвілінаў 20 яго занесла ў нейкі брутальны раён, куды, відавочна, ня варта было совацца.

Зьміцер ліхаманкава шукаў на ўказальніках знаёмыя назовы — хоць які б Манхэтэн ці Брадвэй...

Упоперак дарогі валяліся старыя пакрышкі. Праехаць было немажліва.

Зьміцер пачаў асьцярожна разварочвацца і краем вока ўбачыў дзьве цёмныя постаці. Яны набліжаліся да машыны.

Маладыя мурыны. Нахабная, у рытме гангста-рэпу, модная хада.

— Гэй, містэр, падкінь пару цэнтаў на колу, — зьявілася ў адчыненым вакне машыны пыса мурына. У вуху — тры дзіркі, цяжкія залатыя завушніцы. Вочы бяз выразу.

Самае кепскае, што Зьміцер заблытаўся ў развароце й спыніўся.

"Ну, усё, — падумаў ён. — Зараз будзем змагацца за жыцьцё. Для гэтага паўчалавека забіць белага — усё адно, што прадаць порцыю крэка.

— Містэр, ты мяне не зразумеў? — запытаўся мурын.

У сьвятле вогнішча (дзьве пакрышкі гарэлі) блiснула нешта мэталёвае.

Зьміцер імгненна выхапіў з кішэні рэвальвэр ды стрэліў проста ў твар маладому мурыну. Той раскінуў рукі ды зваліўся на старыя пакрышкі. Бакавое шкло Зьміцеравага "Кадыляку" апырскала крывёю.

Зьміцер даў зь месца так, што завішчэлі шыны. Выратавальны інстынкт імгненна падказаў яму, у які бок ехаць. І праз нейкія 10 хвілінаў Зьміцер быў далёка ад чорных, сьмярдзючых, брудных бронксаўскіх трушчобаў. Ён кіраваў у прэстыжны раён, да свайго двухпавярховага маёнтку, да свае прыгажуні-жонкі й думаў пра тое, што заўтра на працу й трэба памыць шкло, выкінуць рэвальвэр, ды так выкінуць, каб немажліва было знайсьці, бо калі гэтая гісторыя выплыве, на кар'еру лепей забыцца.

— Пачакай мяне, — папрасіў Віталь. — Я дакладна вярнуся.

Казімер застаўся ў прыгожай круглай залі, а Віталь ступіў цераз парог.

Чорны капюшон трэ было ўвесь час папраўляць, бо ён звальваўся на вочы й замінаў бачыць дарогу. А засталося ж няшмат. Некалькі кілямэтраў — і ён, нарэшце, прыйдзе ў свой родны манастыр, да сваіх братоў. Ён ім распавядзе пра сваё падарожжа. Пра тое, што ён бачыў у далёкай краіне, пра дзіўных людзей, што моляцца агню, пра страшных дзікуноў, што ядуць адно аднаго, пра дрэвы, вышэйшыя за нашыя храмы, пра зьвяроў, якіх, як яны думалі раней, можа нарадзіць хіба што хворая фантазія апантанага нячысьцікам...

Колькі чаравікаў сьцерлася за час падарожжа, дый рыза ўся ў дзірках. Але гэта не дарэмна. Мы створаныя, каб удасканальвацца, каб спазнаваць сябе й навакольны сьвет. Я напішу кнігу, хай на гэта пойдуць гады. Я напішу кнігу й дам людзям новыя веды.

Вось адсюль манастыр мусіць быць добра бачны. Трэба паправіць капюшон.

Чамусьці не відаць яго. Не відаць высокіх белых, колеру чысьціні, сьценаў. Не відаць купалоў з крыжамі. Відаць адно дымныя руіны. Відаць крумкачоў, што зьляцеліся на крывавы баль.

Віталь укленчыў ды пачаў маліцца.

Ён ня бачыў, як зь лесу выехаў атрад запароскіх казакаў ды рушыў проста на яго.

Казімеру здалося, што чакае ён ужо ледзьве ня месяц. Урэшце ён адчыніў дзьверы ды з парогу азірнуў пакой. Нічога цікавага. Звычайны пакой. Офісная мэбля. Кампутар на стале. Цішыня.

Казімер паволі спусьціўся па доўгай лесьвіцы. Людзей нідзе не было. І наагул увесь інтэр'ер храму (калі гэта храм) зрабіўся нейкі бляклы. Нібыта ў храме (калі гэта храм) надышла шарая гадзіна.

Казімер выйшаў. Удыхнуў на поўныя грудзі паветра. Захацелася есьці.

Лішне казаць, захочацца тут, — падумаў Казімер. — Колькі я там пратырчэў!

Балазе ягоны дом недалёка, зусім побач.

Казімер доўга калупаўся ключом у замку. Поркаўся, поркаўся... Замок ня слухаўся. Раптам дзьверы адчыніліся, і на парозе ўласнае кватэры Казімер убачыў нейкага мужчыну сярэдняга веку ў дарагім гарнітуры й залатых акулярах на носе.

— Што вам тут трэба, малады чалавек? — запытаўся мужчына ў гарнітуры.

— Як гэта "што"? — абурыўся Казімер. — Гэта мая кватэра.

— Малады чалавек, я вам раю закусваць, калі выпіваеце, — усьміхнуўся тып у гарнітуры. — Гэта не кватэра, а офіс юрыдычнае фірмы.

— Як мінімум, учора тут была мая кватэра, — настойваў Казімер.

— І ўчора, і заўчора, і год назад тут была юрыдычная фірма, — сказаў чалавек у гарнітуры. Па ягоным тоне Казімер зразумеў: жартаваць зь ім ня будуць.

— Прабачце, — мармытнуў ён і выйшаў з пад'езду, да якога за нядоўгі час свайго існаваньня ў гэтай кватэры пасьпеў прызвычаіцца й нават пранікнуцца цёплымі пачуцьцямі.

Казімер выйшаў на ціхую вуліцу, якую ведаў рэдкі кіровец. Якой не знайсьці на мапе сярод праспэктаў імя герояў вайны.

Па супрацьлеглым баку вуліцы шумна крочыла кампанія п'яных падлеткаў. Дыміла труба раённае ТЭЦ. Прагрукатаў трамвай і спыніўся акурат перад Казімерам. Дзьверы зачыніліся, трамвай рушыў далей па сваім маршруце. З-за рога вызірнула тупая рудая пыса старога "Ікаруса".

Заімжэла. Казімер натапырыў каўнер ды накіраваўся да піўнога шапіка, дзе два хваравітыя мужчыны няпэўнага веку пасмоктвалі з паўлітровых слоікаў ранішні напой.




**Пасьля другой-трэцяй чаркі Падземны чалавек пахінуўся да мяне і пачаў даводзіць, што гара, на якой стаіць Верхні замак — насыпная.**

*В.Ластоўскі. "Лябірынты"*

## Сяргей Шыдлоўскі

Пераходзячы зь вескі ў веску, можна прайсьці Полацак наскрозь: Экімань, Бельчыцы, Кароўнікі, Ноўка, Грамы, Спас-Слабада, Лазоўка, Баравуха. Кожная з уласным Гаўрылам, што не адзін у Полацку, і пэрсанальным уваходам у легендарныя сутарэньні. Горад з падмосьцем, горад у дублі. Дзе копія, а дзе арыгінал? Вуліцы — праекцыі лёхаў, ці лёхі — адлюстраваньні мокрых ходнікаў? Над калюгамі запальваюцца ліхтары — загараюцца паходні і ў лябірынце. Горад варожыць: што будзе — было, было — будзе. Дзе сапраўды Полацак? Там, дзе і полацкая Бібліятэка, Летапіс, Лябірынты. У чалавечых стасунках, генэалёгіях і сьвятах. Купала, Радуніца, Эўфрасіньня, Вялікдзень — тапаграфія Полацку, ваколіцы якога сягаюць на пятнаццаць стагодзьдзяў ушыркі. Між Багаяўленкай і Сафійкай адлегласьць вымяраецца эпохамі, мэтрамі — час. Барока — мэтафара гэтага гораду.

Гострыя сны — крышталёвыя ранкі верасьня. Горад станіўся да празрыстасьці, увыразніліся абрысы Лябірынту.

Сувіты з вуліцамі, ен распрастаўся ад аднаго позірку, захапіўшы небакрай. Памыляецца Падземны чалавек — падобны момант можа здарыцца дзе заўгодна, сталай брамы не існуе. Спружынаю-сьлімаком ён разгортваецца вакол цябе, ты робішся ягоным рухомым цэнтрам. Дасканалы лябірынт — з навучкай грыбніка выйсьці немагчыма. Грыбнікі, геадэзісты, тапографы сюды і не трапляюць. Гэты досьвед блізкі хутчэй скарбашукальнікам ды калекцыянэрам. Яны носяць свае нябачныя лябірынты як смаўжыныя дамкі, станіўшыся да празрыстасьці.

Я трапіў у лябірынт на правох нумізмату. Зьбіраю шэлегі ў палявых умовах. Пры канцы 80-х Экімань гарэла, неўзабаве пачалося будаўніцтва новага мосту церазь Дзьвіну, якое зблытала арыенціры ў куламесе абшчапітаўскага бою і сярэднявечнай керамікі, але самапальных археолягаў цяпер тут нават больш — намываюць у ручаінах мядзяныя бурацінкі. Лазаходцы, захавальнікі надзейных мапаў з імпэратарскімі пазначкамі, дзякуючы ім іржавыя наканечнікі полацкіх стрэлаў і праз стагодзьдзі лучаць у цэль.

Я наладкоўваў кішэні керамічнымі аскепкамі, а калі знаходзіў нешта хадавое, то адсылаў раней назьбіраныя чарупіны па дзьвінскіх хвалях — з таго месца, дзе стаялі экіманскія лодкі ды трымцеў лазьняк. Плавок плёскаўся ў лазовым рабаціньні, Эдгара По перагортваў сівер. Сядаеш у лодку — і хаты зьнікаюць за пагоркам, насоўваецца парк. Краявід жывілі вежы Сафіі.

Парк доўжыцца амаль да Бэрнардынкі. Дакладней, доўжыцца адлюдны бераг, паросы хмызамі. Толькі на мапе можна правесьці мяжу, дзе сканчаецца гэтая прырода і пачынаецца ўласна гісторыя. Зялёныя жылы хмызоў разыходзяцца ад ракі ўглыб кварталаў, вызначаючы абрысы вуліц, а часам — і пэрыпэтыі гарадзкой хронікі. Гэты сымбіёз — хутчэй помнік прыроды, чымся культуры — называецца Задзьвіньнем. І сам Полацак нагадвае садова-паркавы запаведнік нерэгулярнага стылю. Сады Скарыны. Знаны палачанін напрыканцы жыцьця быў садоўнікам. Сімяон Полацкі ж назваў кнігу свайго жыцьця *"Вертоградом многоцветным"*, вертаградам — то бок



ЛІЯ КІЙКО

садам. У садах Экімані — маёнтку паноў Беліковічаў — Ян Баршчэўскі занатоўваў песьні, што даносіліся са стругаў, якія плылі Дзьвіною ў Рыгу.

На пляне парк сканчаецца бульварнай восьсю, што лучыць візуальна Курган Неўміручасьці з Сафійкай. Сабор месьціцца на супрацьлеглым беразе, але калі глядзець на яго з Кургану, ён нібы вырастае з парку. Вясельлі і цяпер прыяжджаюць на Курган ускладаць кветкі да Вечнага агню з замураваным камуністычным пасланьнем нашчадкам у 2017 год. Мяркую, гэта робіцца дзеля краявіду з Сафійскім Саборам, на фоне якога тут звычайна і фатаграфуюцца. Скрозь так: на язычніцкім камені — Барысаў крыж, на праваслаўным падмурку Сафіі — уніяцкая бажніца, а насупраць яе — пагансtargetка-савецкі Курган. У гэтай эклектыцы ёсьць нявыяўленая лёгіка, зразумець якую можна толькі з гледзішча полацкай рацыі. Імпэрыі мінаюцца, а Полацак застаецца. Зьнікне рэспубліка — горад будзе стаяць, прыйдуць археолягі, рассартыруюць сьмецьце. На тле плыткай адраджэнскай гісторыі Полацак — анкляў вечнасьці.

Пры ўсёй мешаніне гэтых напластаваньняў гісторыка-культурныя коды гораду прачытваюцца выразна. Полацкую сыстэму каардынат утварае гарызанталь Дзьвіны, што задае прыродныя парамэтры, мус ляндшафту, геапалітычныя арыенціры. Дзьвіна — вэктар полацкай гісторыі, кантактаў і камунікацый гораду, Дзьвінскае ж прыбярэжжа — авансцэна гэтай гісторыі. Невыпадкова фасад старажытнага Полацку з Сафіяй і Калегіюмам выходзіць на Дзьвіну. Вэртыкаль Сафіі — гэта духовая скіраванасьць, імпульс Богабудаўніцтва, цывілізацыйныя арыентацыі. На іхным скрыжаваньні, як пункт адліку, ляжыць Барысаў камень — абярэг з кірылічнаю вязкай, што паяднала паганскую архаічную аўтэнтыку з хрысьціянскім цывілізацыйным пачаткам. Сам горад, раскінуўшыся на двух берагах, сымбалізуе мост "з варагаў у грэкі", што падтрымлівае гамагеннасьць беларускай культурнай прасторы, ейных мітаў і гісторыі. Гэты горад не належыць насамрэч цяперашчыне, ен трымаецца пэўнага нэўтралітэту на ўмове "старыны ня рушыць", жыве з таго, што здае пад адсоткі чарговаму геапалітычнаму ўтварэньню свой сымбалічны капітал. Полацак і застаўся пераважна купецкім местам — гандлюе ведай, прэстыжам полацкай маркі, генэалёгіямі — тым, што так шануюць новапаўсталыя дзяржавы-хімэры. Пасярэдніцтва, культуртрэгерства, пераклад — звычайны бізнэс для памежжа. Мэсіянскія праекты адкладзены.

Што да Кургану Неўміручасьці, то ён упісаўся ў канцэпцыю "краіны валатовак". Гэтую савецкую філію полацкіх лябірынтаў насыпалі ўсім горадам падчас суботнікаў, як і вымагае архаічны канон, зямлю прынасілі ў руках. "Сівагорбы" крывіцкі пэйзаж асыміляваў ягоныя абрысы. Абсаджаны разлапістымі хваінамі, Курган выглядае здалёк ланцугом горных пікаў — вітамін для вачэй.

*Тым* разам, ідучы пад Курган з фотаапаратам, я спраставаў шлях праз зарослыя прысады — зацішак бясчасься, зарэзэрваваны для сьвяткаваньня 9 траўня. Ён аджывае аднойчы на год па рэфлексе — пад какафонію гучнікаў. Ля кожнага хмыза з гарматнай стралянінай і сьпевамі народнага хору адпраўляюцца дыянісіі. Шашлыкі, папяровыя шкляначкі, квас на разьліў, піва хоць заліся — формула ўсенароднай радасьці. Неўдаваны сацыяльны аптымізм.

Прысады даўно мусілі скончыцца, але асфальтоўка доўжылася. Каб не губляць часу ў счужэлых нетрах, ламануў праз гарошнік. Спатыкнуўся на мурашніку, не разгледзеў — чорныя ці рудыя, чорныя — добрыя, рудыя — благія. Валіўся на гал — руды ад цаглянай крышонкі. Галгалом, з фантанам у сярэдзіне, дызайн якога зробіць гонар зэнітнай установы, што ў мэтах маскаваньня ўдае фантан. Нехта зайздросна раскруціўся — уся бэтонавая абсада фантану абкладзена дыхтоўнымі вокладкамі, не раўнуючы скарынаўскае сьвята кнігі. Наведнікаў толькі няма.

Бавіўся ля кожнай кніжкі, расчытваў вокладкі. Кнігі цэнныя — на фінскай паперы, выдрукаваныя буйным кеглем, з паважнымі клясыкамі на фарзацах. Сядзяць гваздамі, пасьміхаюцца — пазналі.

Крапнуў стэарын, забегалі цені ў пісьменьніцкіх вачаніцах, спружына-сьлімак ахінула навакольле, я стаў ейным рухомым цэнтрам. Уся справа ў форме лябірынтавых паваротак, што вірам зацягваюць горад у барокавыя сны і відзежы. Прыдаўся б слоўнік Власта — шляхаводца па нетрах архетыповага.

Патрапіў у запасьнікі. Музэяваная мара вылежваецца тут да мэмарыяльных кандыцыяў, падсыхае, чакаючы Максаў Бродаў, музэйшчыкаў сяброўства, каб рассыпацца ў руках, як і належыць канвэртабэльнай мары, чыстай літаратурнай легендзе, гербарыю настурак.

Калідоры, выпісваючы формулу ракако, віліся ў пакручыстым стылі ўніяцкіх палемік, тупікі прымаліся за выбаўленьне ад закальцаваных васьмёркай мэйнстрымаў, моташных, як колазварот Адраджэньняў у лекцыі па культуралёгіі. Абрыдла блукаць па выгінах Вялікага стылю — музэйны сындром, вядомы і аматарам школьных чытанак.

Шукаў на заседжаных скрыжалях знаёмыя імёны: Баярыны, Бельскія, Булаўскія, Лагуны, Лапіцкія, Лісоўскія, Маеўскія, Маркевічы, Марковічы, Плаксы, Садоўскія, Садкоўскія, Славінскія, Сівыя, Трыпукі, Шыкі — пракаветная музыка прадмесьця. Пункцір іхных лёсаў акрэсьліваў абрысы краю. Межы перасоўваліся, на варту забылі, але баяры памежных марак далі рады сваёй службе самі, кшталтуючыся ў распазнаваньні скрайнасьцяў. Твой чарапень ня ўнёс бы дысанансу ў гэты шэраг старапалацкіх сківіц і насяр.

Пасунуў далей у спадзеве знайсьці выйсьце, ухапіўшы лёгіку экспазыцыі: сховаў-спратаў, пантэонаў, ярархій, крушняў сьвятога каменьня. Праінтэрпрэтаваўшы чарговую паваротку, упёрся ў тупік. Варта было згадаць навучку, атрыманую ў калідорах Палацу Піянэраў. Засланы акцябрацкай зорачкай у гурток палітінфарматараў, на працягу чатырох гадоў па чацьвяргох пашыраў свой палітычны кругагляд, мацярэў ідэйна, дасьпяваў да Клюбу інтэрнацыянальнай дружбы і паездкі на Балатон. Нават не сумавалася — ведаў усе краіны Афрыкі. Меў амбіцыі падабацца кіраўнічцы гуртка, выхаванцы Літінстытуту. Але падзьмулі вятры перамен. На чацьверты год, разышоўшыся ў сьвятле новага мысьленьня з дагматычнай ацэнкай правоў нацыі на самавызначэньне, сышоў з гуртка. Замест афрыканскіх краінаў адкрыў для сябе чароўны сьвет райцэнтраў Бацькаўшчыны. Родныя балаты сталіся любейшыя за чужыя Балатоны. Зрэшты, на асобных маіх контурных мапах межы Бацькаўшчыны асягалі і возера Балатон, ня кажучы ўжо пра Смаленшчыну. Пасьля XIX партканфэрэнцыі ўжо нічога не здавалася немагчымым. На кар'еры піянэра паставіў крыж, рэканструяваў "Камасутру" па тэкстах Палякова, Аксёнава, Вайновіча з нумароў "Юности", школьныя палітінфармацыі праводзіў на матэрыяле беларускай службы "Радыё Свабода". Нясхільныя адсочваць генэральную лінію партыі, аднаклясьнікі мае былі ідэальным аб'ектам для ідэалягічных дывэрсій.

З Палацу Піянэраў я вынес звычку вывучаць пляны пажарных эвакуацый — перамнажэньне двузначных кабінэтных нумароў дапамагала пасьля вясновай вуліцы горш. Вядома, ніякіх пажарных плянаў на гэты раз не было, але над галавой зеўраў цёмны прастакутнік. Падцягнуўся і выйшаў на дзьве рукі. Дзеля прыемнасьці паўтарыў практыкаваньне яшчэ раз — парэнчы былі іржавыя і цёплыя, па руцэ. На жаль, бяз воплескаў. У такіх выпадках фізрук хітаў галавой — "Ёсьць моц, трэніроўкі не патрэбныя". Словы прыемныя, але рацыі ў іх няма.

Цвыркаў гнілым зубам вахцёр — на гэты маячок і пасунуў. За чарговай пaveroткай узьнікла вакно, выйшаў бы, каб не галасы. Столік з сувэнірамі, крошкі печыва. Пылі-пылі, грудкі семак, тралі-валі, краля "брун №4", пёры, чарупіны, акамянеласьці. Можна было і праз вакно. Квіта шкада — калі ласка, за турнікет.

Вываліўся ў катакомбы пад плёцам Перамогі. Стары кашмар — ад былой раскошы застаўся жэтон на мэтро, квіт на цягнік да дому і сем хвілін, каб пасьпець. Не знаходзіцца ўваход, блытаюся ў паваротках. Знайсьці ўваход у мэтро на Плошчы Перамогі — непасільнае заданьне для папаленых мазгоў. Як працуе гэтая машына? На веры ці цынізьме? На цынізьме веры — старым добрым езуіцкім "сродкі дзеля мэты" збудаваны гэты лябірынт. Прачынаюся. Цяпер ужо канча — ізноў жаўтаватыя купы, непрасьветленыя ліставеяй, суцяшальная гульня. Прысады доўжацца.

У анкляве вечнасьці не істотна — пяць стагодзьдзяў менш ці больш, гісторыкі спрачаюцца за пару дзён, а ў горад штораз прыходзіць усё тая ж тысяча пяцісотая восень. Што будзе — было, што было — будзе.

сёе, што зь цяжкасьцю праходзіла ў Менску, добра прымалася там. Ступень свабоды ці, як тады казалі, даўжыня ланцуга, на якім сядзіш, у Маскве і ў Менску была розная. З паэзіяй у мяне пакаціла значна лепей, чым з малюнкамі. Маю на ўвазе афіцыйны сьвет. Мяне пачалі запрашаць на розныя тусоўкі, сэмінары, нарады, паседжаньні. Я перазнаёміўся з процьмаю расейскіх паэтаў. Піў гарэлку — а яны ўсе пілі гарэлку — з сакратаром Ахматавай і настаўнікам Бродзкага Яўгенам Рэйнам. Да мяне з Масквы прыяжджаў наймаднейшы мэтамэтафарыст Паршчыкаў. Я мог сабе дазволіць і не пайсьці ў бары за стол да Юр'я Кузьняцова, бо той за вочы абазваў мяне "жыдам". На сярэдзіне 80-х паэтычная Масква падзялілася на два лягеры: "русотяпы" і "жидовствующие". Мне, як тому татарыну, было "по...ать", але мяне ўсё адно залічылі ў лягер жыдоў і паджыдкаў. Сваё ж беларусы залічылі, а ў Маскве распаўзьліся чуткі, што я самы чыстакроўны жыдзяра, і прозьвішча ў маёй маці самае жыдоўскае — Глёбус. Спрачацца было бессэнсоўна. Дый навошта? Большасьць выдавецтваў і літаратурных часопісаў належалі так званым "жыдам". І мяне пачалі друкаваць у тоўстых літаратурных часопісах. О, які гэта быў гонар, надрукаваць нізку вершаў у каляніяльным часопісе "Дружба народаў" ці ў экспэрымэнтальнай "Літаратурнай вучобе". Зараз і ўявіць цяжка. Мне пачалі зайздросьціць. Да зайздросных вачэй нельга прывыкнуць. Вось нельга і ўсё. Колькі ні спрабаваў, ня змог. І ты ня зможаш. І ніхто ніколі ня здолее спакойна трываць зайздросны пагляд. Застаецца рабіць выгляд, што ігнаруеш зайздросьнікаў. І я рабіў такі выгляд і ў Менску, і ў Маскве. Але адна рэч рабіць выгляд, і зусім іншае — не перажываць з-за гэтага. Сябры пачалі зьнікаць. Самае балючае — страта сяброў. Я кампэнсаваў згубу сяброў безьліччу новых знаёмстваў. У час сваёй паэтычнай кар'еры я знаёміўся надзіва лёгка, як лёгка чытаў вершы. На адным з маскоўскіх сэмінараў замест свайго твору я прадэклямаваў "Пагоню" Багдановіча і "Калі зямлю атуліць змрок..." Таўлая. Хвалілі. Я дзейнічаў па формуле: "Мае белвершы друкуюць у зборніках разам з Коласам і Купалам, а твае, расейскія, ніколі не надрукуюць пад адной вокладкаю з Пушкіным і Лермантавым". І калі ў Маскве пачаў рыхтавацца мой паэтычны зборнік у перакладах Паршчыкава й Яроменкі, я перайшоў на прозу. Ня йшлі ў мяне больш вершы. Не пісаліся, не складаліся, не ліліся... Мне маскоўскі літкансультант па Беларусі, была такая пасада, нешта накшталт прад'юсэра, Галя Грыбоўская, кажа: "Ты паэт, цябе прынялі ў Маскве як паэта, ня трэба нічога зьмяняць..." Не! Буду празаікам.



### 5. ПРАЗАІК

Стаць празаікам у Маскве было ўтрая лягчэй, чым паэтам, калі ты папярэдне быў паэтам, вядома. У паэзіі шмат вырашала імя перакладчыка. У прозе вырашалі сувязі й пасада перакладчыка, а ягоныя здольнасьці кампэнсаваліся маім уменьнем аўтарызаваць тэксты. Тоўстыя часопісы пачалі друкаваць мае апавяданьні. Да аднаго нават напісаў прадмоўку Алесь Адамовіч. Была й такая завядзёнка: старэйшыя-прызнаныя пісалі цёплыя словы пра маладых невядомых. Мой прыход у прозу супаў з ашаламляльнымі палітычнымі падзеямі: упала імпэрыя, разваліўся саюз, зьмянілася палітычная мапа на глёбусе. Расейская мова й Масква страцілі большую частку сваіх уплываў. Апошнім маім трыюмфам у Маскве стала вечарына "Маладая беларуская літаратура" ў ЦДЛ (Цэнтральны дом літаратара). На зьмену Галі Грыбоўскай курыраваць беллiт даручылі Валодзю Сотнікаву. Такому сьціпламу хлопцу з-пад Гомеля, які пісаў раманы пра басаногае маленства, пісаў па-расейску, піў гарэлку, а напіўшыся, крычаў на калідорах інтэрнату Літаратурнага інстытуту, таго самага інтэрнату, дзе калісьці жыў мой бацька, дзе на розных паверхах віселі партрэты розных клясыкаў. Валодзя гарлаў пад тымі партрэтамі: "Я — русский писатель!" З Вовы ніхто не сьмяяўся. Калідоры інтэрнату на вуліцы Шата Руставэлі чулі столькі розных "пісацеляў", што прывыклі да ўсяго: і да Сотнікава, і да Яндарбіева, і да расейскага, і да чачэнскага. Цьвярозы Сотнікаў нічога не крычаў, ён акуратна зладзіў вечарыну. Сябраваў Сотнікаў з маім братам Міраславам, а таму беллiт была прадстаўлена нашай тусоўкай: Клімковіч, Шайбак, Сьцяпан, я і чамусьці Турбіна як крытык ці як чалавек, што ў Менску піша па-расейску. Народу сабралася шмат. Мы чыталі вершы й прозу, адказвалі на дурныя пытаньні. Чаму пішаце па-беларуску? Няўжо Беларусь зможа жыць без



Расеі? Творчыя пляны? Няўжо беларусы й расейцы розныя народы? Масква ня верыла ў сваю паразу. Масква ніколі не прызнае пройгрышу. Маскоўскія гісторыкі дагэтуль не пагаджаюцца, што Напалеон выйграў бітву пад Барадзіном. Такая ўжо маскальская мэнтальнасьць.

Што да плянаў? Дык яны былі напалеонаўскія. Разам з Клімковічам і Шайбаком мы напісалі раман "Заўсёды сьветла каля турэмных муроў". На расейскую яго пераклаў Сотнікаў. Дэтэктывы Шайбака й Клімковіча пераклаў Аляшкоўскі. Атрымаўся зборнік "Современный белорусский детектив", і галоўны рэдактар выдавецтва "Советский писатель" Міхал Саламонавіч Камінскі падпісаў з намі дамову й выплаціў аванс. Надзеі, грошы, прызнаньне — усё ў мяне было ў Маскве. Але я адчуваў, што лясьнецца ўсё гэта вельмі хутка. І сапраўды, кніга так і ня выйшла, выдавецтва "Совпис" сканала, Союз Писателей напаткаў лёс СССР. Пачынаўся новы час, у якім на маскоўскіх вуліцах не было месца празаіку і паэту Глёбусу. З усёй маёй прозы ў Маскве прыжыўся толькі адзін герой — прафэсійны кілер, які выконвае даручэньні спэцслужбаў. Менавіта такі герой захапіў Маскву й Расею, менавіта пра яго пішуцца зараз шматтомныя сэрыялы й здымаюцца фільмы. І наш першы раман вытрымаў паўмільённы наклад па-расейску. А я пачаў рыхтавацца да пятага штурму Масквы ў якасьці выдаўца.

**Вільня. Жнівень 2000 году.**
**Маскоўскія малюнкі аўтара.**

# Вечар у "Прэзыдэнт-гатэлі"

Вінцэсь Мудроў

Папулярны кінагерой Казадоеў быў, як вядома, зацятым празаходнікам і таму называў мясцовую гасьцініцу "Атлянтыка" на заходні манер — гатэлем "*Atlantic*". У навачаснай Маскве ўсё навокал прапахла тлятворным казадоеўскім духам, вэстфільская тля апанавала гарадзкую тапаніміку, і вось ужо гасьцініца зь мілагучным і палітычна вытрыманым назовам "Кастрычніцкая" перайменавана ў "*President-Hotel*". Перад гэтым самым гатэлем я й паўстаў золкім лістападаўскім адвячоркам, сьціскаючы ў потнай руцэ запрашэньне на дыпляматычнае прыймо.

Патрапіць у гатэль было справай нялёгкаю. Давялося доўга ісьці ўздоўж жалезнага паркану, якім быў абгароджаны "*P-H*", а потым стаяць у чарзе ля КПП, дзе трое маладых міліцыянтаў спраўджвалі дакумэнты ў тых, хто пнуўся ўбіцца ў гатэльнае нутро. Акурат перада мной стаялі кабеты далёка ўжо не бальзакаўскага веку й мужчына Бальзакавага выгляду, у якім я пазнаў былога брэжнеўскага сьпічрайтэра Аляксандра Яўгенавіча Бовіна. Як потым высьветлілася, і кабеты, і былы сьпічрайтэр, і аўтар гэтых нататак ішлі на адну і тую ж імпрэзу.

Фае гатэлю — па-расейску разьлеглае і па-савецку няўтульнае, — калі і магло чым уразіць, дык гэта сваёй публікай, што сноўдалася сюды-туды, з флегматычнай абыякавасьцю пазіраючы на шэрыя гатэльныя сьцены. Пры гэтым толькі адзін мужчына — цыбаты й дарэшты схуднелы — выяўляў халерычнасьць. Мужчына стаяў пасярод фае, гаманіў з падхорцістым шатэнам і, кідаючы захопленыя позіркі на неверагодна тоўстую мурынку, махаў рукамі й штораз паўтараў: "Колосаль!"

З гіморай гатэльнага заўсёдніка я падняўся на другі паверх, агледзеўся і пачуў знаёмы голас: — *Господин Винченц!*

Вокліч такі мог належаць толькі аднаму чалавеку ў сьвеце — сакратару альбанскай амбасады Лігору Цулуфэ, не старому яшчэ, але спрэс сівому мужчыну, зь якім мы тройчы, па-альбанску, абняліся.

— *Si jeni?* [Як маешся?] — выдыхнуў мне на вуха сакратар амбасады і тут жа, ужо па-расейску, весела запытаўся: — *Как там поживает писатель Черницкий?*

У 1994 годзе сп.Цулуфэ прыяжджаў да нас у Наваполацак на літаратурную канфэрэнцыю, і там, падчас сяброўскай бяседы, яго ўразілі творчыя магчымасьці згаданага пісьменьніка. Мушу адысьці ад асноўнай тэмы і згадаць той задаўны і, па нашых мерках, звышбанальны эпізод. Такім чынам: Аляксандар Чарніцкі таго вечару спазьніўся на бяседу, падбег да нашага стала, і я, зразумела, наліў яму штрафную шклянку. Творца яе кульнуў, нечым закусіў, падсеў да другога стала, а альбанскі госьць, які сядзеў побач, таропка паправіў гальштук і прыкметна захваляваўся.

— *А что будет с этим господином?* — спытаўся госьць пасьля хвіліны одуму.

— З кім? З Чарніцкім? — не зразумеў я і азірнуўся: творца ў гэты час куляў чарговы кілішак. — А што зь ім павінна стацца?

Сп.Цулуфэ зь лёгкай панікай увачч зірнуў на пустую шклянку, і я зразумеў прычыну ягонай трывогі. Пісьменьнік Чарніцкі, ва ўяўленьні альбанскага госьця, адным махам выпіў сьмяротную дозу.

— *Черницкий творит... всем смертям назло,* — паведаміў я, ціснучы Лігораву руку, мы засьмяяліся, і Лігор, азірнуўшыся, махнуў рукой: — *Jorgo, eja këtu!* [Ёрга, хадзі сюды!]

І вось я ўжо цісну руку знакамітаму альбанскаму паэту і перакладніку, а ў недалёкім мінулым дысыдэнту Ёргу Блацы. Як і многія сумленныя людзі ў Альбаніі, паэт зазнаў смак турэмнай поліўкі, а потым доўгіх дваццаць шэсьць гадоў працаваў рознарабочым на ўдарных будоўлях.

— Ёргу за пераклады Пушкіна расейскі ордэн далі, — заўважыў Лігор, і паэт незадаволена скрывіўся — ён відавочна не любіў рэклямы.

У гэты момант хтосьці крануўся майго локця.

Гэта быў А.Я.Бовін.

— *От души поздравляю,* — прамовіў былы сьпічрайтэр, прымаючы мяне за альбанца, паціснуў руку, і я з удзячнасьцю кіўнуў галавою.

28 лістапада альбанцы адзначаюць сваё галоўнае сьвята — *Ditë e Flamurit* — Дзень Сьцяга. Менавіта таго дня ў далёкім ужо 1912 годзе іх краіна стала незалежнаю, і альбанская амбасада ў Маскве штогоду ладзіць з тае нагоды дыпляматычнае прыймо. Супрацоўнікі амбасады два разы запар прысылалі мне запрашэньне, але ехаць не выпадала, і вось, нарэшце, я стаю ў зырка асьветленай залі і рукаюся з сп.Вукаем — Надзвычайным і Паўнамоцным пaслом Альбаніі ў Расейскай Фэдэрацыі і, па сумяшчальніцтве, у Рэспубліцы Беларусь.

— *Zoti Mudrov nga Bjellorusia* [Спадар Мудроў зь Беларусі], — выгукнуў за маёй сьпінай супрацоўнік амбасады; я прыкладаўся да рукі высокай белатварай кабеты — жонкі пасла — і мелькам агледзеў залю.

Заля ўражвала. У цэнтры яе, працяўшы высокую столь, пнуліся ўгору нейкія нетутэйшыя расьліны; дзесьці ўвышыні цвыркалі птушкі і гучэла музыка — інструмэнталка з "Поргі і Бэс"; на другім канцы залі, пасярод імправізаванай бэтоннай сажалкі, струменіў фантанчык, і некалькі кабетаў неадрыўна глядзелі ў ваду, выглядаючы, відаць, акварыюмных рыбак. Але што найбольш уразіла, дык гэта даўжэзны стол: ён стаяў па пэрымэтры залі, і яго сэрвіроўка індукавала ў памяці імя біблейскага Бальтазара. Як я заўважыў, каньяк на стале — каньячныя бутэлькі стаялі роўным шыхтом з дыстанцыяй у мэтар — быў альбанскі, а віно — французскае.

Пакуль я лічыў бутэлечныя рыльцы, мяне ізноў узялі за локаць.

— *Вы из Белоруссии?* — невысокая жанчына ў дэкальтаванай сукенцы — вочы крыху затуманеныя, грудзі крыху прывялыя — бліснула асьляпляльна-белымі зубамі. — *У меня в Минске столько знакомых, столько знакомых... Вы знаете, нас с вами никому не разъединить. Мы одно целое,* — кабета ўсхваляваная перавяла дых і шматабяцальна пасьміхнулася.

— Так ужо і нікому, — заўважыў я ў адказ і тут жа дадаў: — А ваш муж?

Кабета сумелася і працяла мяне саркастычна-ацэньваючым позіркам, затрымаўшы вочы на тым месцы, дзе пачынаюцца ногі.

— *Мужчины всегда всё не так понимают,* — прамовіла дэкальтаваная незнаёмка і падалася глядзець рыбак.

Добрую чвэрць гадзіны я блукаў па залі, чакаючы ўрачыстай часткі, і раптам убачыў, што ўсе навокал, уключаючы і пасла, падымаюць чаркі і пад высокай стольлю гучыць альбанскае "*Gëzuar!*" [Будзьма здаровы!]

— *Господин Винченц... что ж ты стоишь?* — паэт Ёрга Блацы паклаў мне далонь на плячук, падвёў да стала. — *Знакомьтесь... учёный-археолог Демосфен Будина. С 1961 года живёт в Москве.*

Я знаёмлюся з археолягам, і ён налівае ў кілішкі па кроплі бурштынавага каньяку.

— *Приехал в Москву молодым человеком, женился на русской, а когда Никита с Энвером разругались — остался в Союзе,* — паведаміў сп.Будзіна і зноў напоўніў чаркі.

— А калі б вярнуліся?

Суразмоўца моўчкі махнуў рукой і нагбом, зусім па-расейску, кульнуў чарку.

Каб перавесьці размову ў іншае рэчышча, я пацікавіўся альбанскай археалёгіяй, і сп.Будзіна з натхненьнем стаў апавядаць пра антычныя гарады, якія яму давялося раскопваць, пра матэрыяльную культуру ілірaў, пра так званую багіню Бутрынта — старажытнагрэцкую скульптуру, знойдзеную ў Альбаніі італійскімі археолягамі, а потым, як бы між іншым, спытаў:

— *Вы москвич?*

Пачуўшы, што я зь Беларусі, стары археоляг неяк адразу пасуравеў і неўпрыкмет адышоў убок.

Зрэшты, без суразмоўцы я не застаўся.

— Дарма ваш Лукашэнка абдымаўся зь Мілошавічам,— прамовіў на дзіўнай мешаніне расейскіх і альбанскіх слоў мужчына, які стаяў поруч. — Я прафэсар Прыштынскага ўнівэрсытэту, займаюся паліталёгіяй і мушу сказаць: гэтыя абдымкі карысьці Беларусі не прынясуць.

Працяг на старонцы 12.

# Вечар у “Прэзыдэнт-гатэлі”

Працяг са старонкі 11.

Я адказаў прафэсару, што з названымі асобамі ня маю анічога супольнага, мы выпілі па чарцы і закусілі чырвонай рыбай.

Публіка разьняволена і даволі гучна гаманіла, і сярод гэтага гаманкога збою прыкметна вылучаўся каржакаваты маладзён у клятчастым пінжаку. Маладзён гаманіў гучней ад астатніх і, падобна, быў паважанай асобай — усе навыперадкі імкнуліся зь ім выпіць.

— Хто гэта? — запытаўся я ў прафэсара.

Наколькі я зразумеў з адказу, гэта быў касавар, кіраўнік будаўнічай фірмы, якая працуе ў Маскве па кантракце.

— *Gani!* — крыкнуў прафэсар, і маладзён азірнуўся.

— *Më lejoni t'ju prezantoj me mikun nga Bjellorusi* [Дазволь табе прадставіць сябра зь Беларусі...] — пачуў я з прафэсарскіх вуснаў, і той, каго клікалі Гані, наструнена перабіў: — *Lukashenko?* — Прафэсар ізноў загаварыў, але таропка — я разабраў толькі адно слова “*opozitë*”, — і маладзён палагаднеў з твару.

Спытаўшы — на якой мове я размаўляю, Гані наліў мне поўную чарку і на добрай расейскай мове пачаў казаць, што нам, альбанцам і беларусам, ня варта “ваяваць” з ЗША ды астатнім цывілізаваным сьветам.

— Альбанія свойчас паваявала, — выдыхнуў разам з каньячным духам маладзён, — і без штаноў засталася.

Прафэсар на знак згоды кіўнуў галавой і паляпаў спакрэвіча па плячы, маўляў: не чытаць лекцый, людзі прыйшлі на сьвята.

Гані ўзяў мой нататнік, запісаў нумар тэлефону.

— Будзеце ў Прыштціне — званіце. Прыму, як роднага брата.

Наступнымі маімі суразмоўнікамі былі: аўтар “Гісторыі Альбаніі” Арш (“Дзякуй Лукашэнку — ён адзіны ня здрадзіў нашаму братэрству”); маладая альбанская паэтка Мірэля Спахіў (“Якуб Колас — гэта ваш?”); рэдактарка альбанскай рэдакцыі радыёстанцыі “Голас Расеі” Лілія Мілько (“Перакладзіце на беларускую мову Ёрга Блацы. У яго папросту геніяльныя вершы”); нарэшце, маскоўскі мастак Аўген Молакаў, творы якога экспанаваліся ў Альбаніі (“Прыходзьце заўтра на Кузьнецкі — пагледзіце мае новыя рэчы”).



Размаўляючы з мастаком, сьпінай адчуў нечы пагляд. Кабета, што мела процьму знаёмцаўменчукоў, глядзела ў мой бок, а поруч зь ёю тоўкся яшчэ нехта, апранены ў шчыгульны “дыпляматычны” гарнітур. Гэты “нехта” неўзабаве апынуўся каля мяне.

— *Вы из Минска? Я слышал ваш разговор с господином Будиной и захотел с вами познакомиться.*

— А вы, відаць, з ФСБ? — запытаўся я, кульнуўшы апошні кілішак, і “нехта” дарэшты няўпэўненым голасам прамармытаў: — *С чего вы взяли?*

Напятае маўчаньне перарваў залівісты жаночы сьмех. Тыя самыя кабеты, якіх я сустрэў на КПП, віселі на шыі Лігора Цулуфэ і, перабіваючы адна другую, гукалі: — Лігор, дай я цябе пацалую!

Сакратар амбасады пры гэтым пачуваў сябе ніякавата. Дый дзіва што — у яго-най напаўмусульманскай краіне жанчыны, ды яшчэ сталага веку, на шыях у чужых мужоў ня віснуць.

— Мяне ж адзін альбанец пакахаў, студэнт пятага курсу, — паведаміла, з настальгічным прыдыханьнем, адна з кабетаў, — пісаў потым лісты, а я не адказала.

— *Работали когда-то в Албании,* — патлумачыў сп. Цулуфэ, адбіўшыся ад заляцаньняў, і працягнуў мне торбу з пляшкай альбанскага каньяку: — *Выпьешь за наше здоровье...*

Ля шатні мяне пераняў усё той жа фацэт у шчыгульным гарнітуры.

— *Адресок свой всё-такі дайте.*

Я дастаў нататнік, сьпехам напісаў: “*гор. Минск, пр-т ген. Булак-Балаховича... М.А.-Стрекопытову*”, аддаў “*адресок*” фацэту і выйшаў з гатэлю.

Знадворку гула, сьвяціла агнямі і сьмярдзела выхлапным чадам Вялікая Якіманка — адна з цэнтральных маскоўскіх вуліц. Каб пазбыцца замарачнага шуму, я завярнуў у завулак і ўзьбіўся на гранітную набярэжную. Тут было суцішна і прыцемна; па рацэ плыў серабрысты шарон, і жоўтыя адбіткі ліхтароў сьвятлівымі афіюрамі варушыліся ў цёмнай вадзе. Праваруч грувасьцілася нейкая цёмная гаргара — прыглядзеўшыся, я пазнаў цэрэтэлеўскі помнік Пятру, — а леваруч, на тле нэонавай зараніцы, напятымі струнамі зьвінелі ванты Крымскага мосту.

Рака з урачыстай павольнасьцю праплывала міма, нічога не патрабуючы, ні аб чым не шкадуючы. Яна была ўвасабленьнем жыцьця, якое таксама плыло некуды і ў цёмных глыбінях якога прывідным афіюрамі сьвяціліся рэдкія радасьці. Я рушыў уздоўж гранітнага парапэту, прыстасоўваючы крок да мернага булькацьення 0,7-літровай пляшкі, і толькі тады зразумеў, што гэтая пляшка — эстафэта, перададзеная прадстаўніку самай затуркаіай краіны Эўропы, — і бронзавы Пятро, колішні гаспадар тутэйшых мясьцін, пагрозьліва глядзеў мне ўсьлед, пукатым вокам сьвідруючы цемру.

## прыватныя абвесткі

### беларускамоўныя Сухарава

**Бацькі, што жывуць у Сухараве і жада[illegible]ь, каб іхнае дзіця пайшло ў 2001 г. ў беларускамоўную [illegible]ясу,** зьвяртайцеся на т.: 215-84-09, Алесь

### вітаньні

**Andrej,** z dniom narodzinaŭ! Lepiej być Sabakam, čymsia Hraždanom. Dźvie čarapachi

**Дзякуй, Тацянка!** Покуль расту ў сваім гародзе – буду моцнай! Капустачка

Віншуем прыгожую беларусачку **Натальлю Водзіч** з днём народзінаў. Астрэйкі

**Андрэй Вітушка,** дзякуй за знаёмства і за запрашэньне на лекцыю. Эліна

**Дзякуй Паклоньніцы** за віншаваньне, а Зямлячцы за зацьвярджальнік. Здароўя вам і шанцаваньня! Бард Мельнікаў

**Шчыры дзякуй,** даражэнькія бацькі, за 20 гадоў цяжкае выхаваўчае працы! Любові і згоды вам! Надзейка, Павал

Любімых бацькоў **Міхала й Антаніну Радзюкоў** віншуем з найвялікшым сямейным сьвятам. Дзеткі

**Спадару Мялешка!** З Днём Варэньня Вас! Берасьцейцы

**Ноч... Старажытныя муры... Поўня...** Як я цябе кахаю! Адэлька

**Даражэнькая Багіра!** Віншую цябе з Днём народзінаў! Зычу нарэшце сустрэць найсьвятлейшае каханьне. Астрыд

### гатавальня

**Гатавальню новую савецкую**, фотаэкспанометар “Ленінград-2” б/у – нядорага прадаю. Менск-89, 220089, д/з Курылу Ю.

### ідэі

**Спадарства,** трэба ўрэшце ўцяміць, што ня BY, але BLR. Паўлюк

**Новы прэзыдэнт** будзе абраны летам 2001-га, гэта Сямён Шарэцкі ці Зянон Пазьняк. Яніна

**Ня Бог** выратуе Беларусь, Натальля Базылевіч, а толькі новы Прэзыдэнт. Эліта Умантайта

**Калі наша ніва** зазелянее, а газэта пакаляровее? Пэўна, гэта нікому не патрэбна? Асабліва рэдакцыі “НН”! Уладзіслаў Жыгалка

**Быццам бы Сонейкі** на поўдні адпачываюць? Ці Вожыкі ў цёплых норах зімуюць? Нешта сумна і халодна стала! Уладзіслаў Жыгалка

**You are fools, no one!** Gore is гора! Навошта яно Амэрыцы?!! Уладзіслаў Жыгалка

### кантакты

**Халасьцяк (30)** жадае разьвітацца з адзінотай і сустрэць новае 1000-годзьдзе са сваёй Жанчынай. П/п МС 0235889, 222310, Маладэчна-6

**Gieni, ня ведаю, пра што ты кажаш**, але ехаць трэба. Максім дурны саўсім

**Šanoúnaja hramadzianka Alena!** Chadziem na piva! Dy pad muzyku “NRM”! Zaútra. Kantekst & W.

**Шалахоўскаму А.**: серада – гэта што? І нават калі? А можа так? Проста гульня. Ю. (G.)




**Народзе!** Ці ёсьць якое моладзевае згуртаваньне, што займаецца гісторыяй? Шукаю кантактаў! Адгукнецеся! Вольга.

**Хлопец (24) шукае сябра ад 25 гадоў**. Маю 2 в/а. 220074, Менск-74, а/с 208

### кінапраектар

**Прадам кінапраектар “Вясёлка-2” не б/у**, з/ч да “Украіны”. Т.: 544-42-14, Генадзь

### кнігі, пэрыёдыкі

**Набуду літаратуру па геральдыцы.** Т.: (8-029) 676-33-69; Менск, 220114, а/с 501

**Шырокі выбар калядных паштовак, а таксама новы асартымэнт аўдыё, відэа, кніг, календароў, значкаў, кампактаў** прапануе выстава ТБМ (Румянцава 13, ля Лінгвістычнага ўнівэрсытэту), з 12-й да 19-й, апроч выходных

**Набуду ўсе нумары газэты “Нацыяналіст”**, якая выдавалася ў 1997—1998 г. 210015, Віцебск, а/с 60

**Віншую чытачоў з надыходзячымі Калядамі і Новым Годам!**
Прадаю кнігі: С.Пільштынова “Авантуры майго жыцьця”, Я.Чачот “Наваградзкі замак”, В.Чаропка “Імя ў летапісе”, альбом “Гравюры Ф.Скарыны”. Тэл.: 258-43-54

**Наступны нумар “НН” выйдзе 26 сьнежня, у аўторак. З Калядамі!**

**Набуду часопісы “Беларуская думка”** № 1—6 за 1999 год. Т.: 262-67-02, Валянцін

**Прадам брашуру “Невядомы сэкс”** (унікальную) за 3 у.а. Капэрта са зв/а: 213819, Бабруйск, а/с 79

**Прадам кнігу М.Ермаловіча “Беларуская дзяржава** – Вялікае Княства Літоўскае”, танна. Т.: 286-05-95

**Часопіс “Nihil” можна набыць** у ТБМ, а таксама ў к/з “Менск” і на філфаку. E-mail: hluk@inbox.ru

### музыка

**Шукаю якасны запіс музыкі і песень зь фільмаў “Эманюэль”** і “Вяртаньне Эманюэль”. Бард Мельнікаў. Т.: (0232) 54-30-40

**Шукаю музыкаў для супольнай працы над маімі песьнямі**. Бард Мельнікаў. Т.: (0232) 54-30-40

### праца

**На сталую працу патрабуецца бугальтар** для раздробнага гандлю (веданьне мовы і ПК). Т.: 228-45-88, Алесь

### рэпэтытары

**Гісторыя: кансультацыі,** кантрольныя работы, рэпэтытарства. Т.: 286-05-95

**Нямецкая мова. Рэпэтытарскія паслугі для дзяцей**, школьнікаў ды ліцэістаў. Т.: 283-54-25, Вольга (з 8-й да 12-й)

*Ганна Матусэвіч – Сакрату Яновічу.*
*Адам Міцкевіч “нідзе й не заікваецца” пра Напалеона як агрэсара, бо Ён ня мог разбурыць дзіцячую сьведамасьць Ліцьвіной; Ён быў Стваральнікам.*





СЬВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ СПАДАРЫНІ ЗОІ. ЗЯМЛЯ ВАМ ПУХАМ

Выказваем свае спачуваньні Ігару Тышкевічу ў сувязі з горам, што яго напаткала, – заўчаснай сьмерцю бацькі. **Баранавіцкія вячоркаўцы**

## паштовая скрынка

**Б. Л-іку з Кобрыня.** Рэдка хто гэтак лупцуе беларускую інтэлігенцыю, як гэта робіце Вы ў сваім допісе. Ці вартая яна такіх жорсткіх ацэнак? Бадай, вартая. Толькі ці тую частку інтэлігенцыі, што робіць і чытае “НН”, Вы маеце на ўвазе? Мусіць, не. Што “інтэлігенцыя прадае беларусаў у рабства Расеі” — гэта перабольшваньне. Яна бязвольная, здэмаралізаваная галечай і бяспраўнасьцю. Але, вызвальце яе палітычна і эканамічна, і яна выведзе народ з рабства.

**Бярнарду П. з Буйкоў.** Няма прасьвету ў Вашых думках, няма надзеі. Цемра на цемры едзе і цемраю паганяе. І з гэтым існа ці да людзей? Ёсьць лепшы сьвет, ясныя дні. Толькі во гэта друкуем: “Настаўнік адмовіўся выконваць ролю Дзеда Мароза на навагоднім ранішніку ў школе. Рэч у тым, што сцэнар ранішніку складзены па-расейску, а школа лічыцца беларускай. Вось настаўнік і запратэставаў”.

**Ганьне С. з Койданава.** Пішаце ў газэту, быццам блізкаму сябру. А газэту чытаюць таксама людзі, што ня ведаюць Вашай сямейнай гісторыі. Як жа яны разьбяруцца ў Вашых думках?

**НАША НІВА**
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

| | |
|---|---|
| кіраўнік праекту | Сяргей Дубавец |
| в.а. галоўнага рэдактара | Андрэй Дынько |
| заснавальнік | Павал Жук |
| карэктарка | Віялета Кавалёва |
| сакратарка рэдакцыі | Аляксандра Макавік |
| стыльрэдактар | Мікола Раманоўскі |
| адказны сакратар | Аляксей Чарняеў |
| выдавец | рэдакцыя газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32**
**E-mail: niva@user.unibel.by**
**http://members.nbci.com/nasa_niva/**

6 палос фарматам А2. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Наклад 3582.
Нумар падпісаны ў друк 18.12.2000.
Замова № 6605.
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а

**НАША НІВА** КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______________________________

______________________________

Імя і прозьвішча ______________________________

Адрас, тэлефон______________________________